

Кіналетапісец → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Шаптух Воранаў → 8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 09 (3068) Год LX

Беласток, 1 сакавіка 2015 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Міністр Галіцкі з меншасцямі




■ Злева: Анджэй Мэйер, Анджэй Галіцкі, Мікалай Мантур

Скрыгатам пачалася 16 лютага сёлетняе — як паказана ў запрашэнні — навагодняя сустрэча прадстаўнікоў арганізацый нацыянальных і этнічных меншасцей Падляшскага ваяводства з паддляшскім ваяводам Анджэем Мэйерам і міністрам адміністрацыі і лічбавізацыі Анджэем Галіцкім (ведамства „апякуе" меншасці ў Польшчы). Нядаўна прызначаны на пасаду ваявода звярнуўся да польскіх літоўцаў з пажаданнямі з нагоды прыпадаючага якраз у той дзень 95-годдзя абвяшчэння незалежнасці Літвы пасля стогадовага царскага зняволення:

— Каб вы адчувалі сябе добра ў нас, у Польшчы.

Выправіць ляпсус узяўся адзін з запрошаных удзельнікаў сустрэчы... старшыня Культурнай асацыяцыі „Русь" Анатоль Адзіевіч:

— Мы сюды не прыехалі. Жывем тут ад стагоддзяў. Таму просім вас, каб так да нас не звярталіся.

Міністр Галіцкі, глянуўшы з дакорам у бок ваяводы, рашуча падтакнуў старшыні „Русі":

— Вядома, што так.

Збянтэжаныя польскія літоўцы сядзелі моўчкі. Так, дарэчы, як і маўчалі ў гэты час прысутныя ў зале падляшскія дэпутаты з сеймавай камісіі нацыянальных меншасцей Яўген Чыквін і Аляксандр Сасна ды старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах Роберт Тышкевіч.

Сустрэча была нагодай прадставіць усім арганізацыям нацыянальных меншасцей новага ўпаўнаважанага па іх справах Мікалая Мантура, які адзначыў, зяртаючыся да запрошаных:

— Гэта я для вас, а не вы для мяне. Не спадзявайцеся, што ўпаўнаважаны аформіць грошы ці нейкія іншыя пытанні, таму што перадам іх у кампетэнтныя ўстановы.

Міністр Галіцкі — прызначаны на пасаду прэм'ер-міністрам Евай Копач у верасні мінулага года — у такой шырокай групе прадстаўнікоў падляшскіх арганізацый нацыянальных меншасцей (запрошаны былі ўсе згаданыя ў Законе аб нацыянальных і этнічных меншасцях) сустрэўся ўпершыню. Раней, аднак, размаўляў з часткай лідараў меншасных суполак неўзабаве пасля свайго прызначэння падчас знаходжання ў Беластоку з нагоды заключэння Кантракту для Падляшскага ваяводства. На гэты раз пераконваў так:

— Пра шматкультурнае багацце варта дбаць не толькі па эканамічных прычынах. Падляшша павінна быць мостам паміж Усходам і Захадам, таму што выконвае і павінна выконваць такую гістарычную ролю.

Абвясціў:

— У мяне ёсць добрыя навіны для вас. Сродкі, выдзеленыя для гэтай часткі ў нашым міністэрстве (падтрымка меншасных мерапрыемстваў — М. Х.) выразна павялічаны. Гэта абазначае пры розных ініцыятывах і розных супольнасцях розныя сумы, але гэтыя сумы растуць год ад года ў розных этнічных групах, прытым сур'ёзна растуць, хаця ведаеце, што дзяржаўны бюджэт амаль такі ж, як папярэдні. Я ведаю, што сродкаў заўсёды не хапае. Трэба, аднак, выбіраць. Вы робіце выбар самі, але часам гэты выбар мусім рабіць таксама мы, і гэта вельмі няўдзячная задача, бо як жа параўноўваць некаторыя з гэтых ініцыятыў. Адна рэч падымае настрой, нават калі мы не можам выканаць поўных чаканняў. Гэта пытанне колькасці меншасных ініцыятыў, а таксама колькасць меншасных суполак, выданняў... Гэта доказ таму, што вы — вельмі актыўная супольнасць, усё больш шматлікая і ўсё лепш арганізаваная.

У сёлетнім бюджэце МАіЛ для падтрымання дзейнасці меншасных арганізацый было выдзелена 700 тысяч злотых больш, чым у папярэднім годзе (у агульнай складанасці амаль 15,5 мільёна злотых). Міністр падкрэсліў:

— Для ўрада добрае функцыянаванне, добры настрой, перакананне, што ў нашым грамадстве ёсць месца і ўвага накіраваны на вас, з'яўляюцца фундаментальнай каштоўнасцю дэмакратычнай дзяржавы. Той, хто адчувае сябе дрэнна ў дзяржаве, лічыць, што яго правы, яго становішча абмежаваныя, даказвае, што дзяржава не ў поўнай меры клапоціцца пра ўсіх сваіх грамадзян, у тым ліку тых, хто вызначае сваю ідэнтычнасць інакш, чым пераважная большасць грамадзян, што дзяржава не з'яўляецца дэмакратычнай.

Інфармаваў, звяртаючыся да ўпаўнаважанага Мантура, што спадзяецца на працяг дзеяннях, звязаных з супрацьдзеяннем з'явам ксенафобіі і нецярпімасці на Падляшшы:

— Супрацьдзеянне пасіўнасці і актывізаванне грамадства дзеля талерантнасці, пабудова правільных, добрых грамадскіх адносін гэта найважнейшая задача ўпаўнаважанага па справах меншасцей.

У ходзе гадзіннага абмену думкамі спасылаўся на магчымасць прызначэння кампенсацыі сем'ям беларускіх ахвяр атрада „Бурага", для чаго неабходна ўнесці змены ў закон аб ветэранах, якія прытармазіліся ў Сейме:

— Аддзяліць трэба ў заяве (як можна было зразумець — у праекце папраўкі ў закон — М. Х.) тое, што было элементам злачынства, напэўна непрымальнага, ад дзейнасці дзяржавы як такой, таму што кампенсацыя паходзіць ад дзяржавы. Гэтае раздзяленне ў заяве было б прынцыпова значнае.

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП, адзначыў аб неабходнасці арганізавання ваяводам і ўпаўнаважаным па справах меншасцей сустрэч меншасцей з органамі мясцовага самакіравання, якія былі б прысвечаны іх падрыхтоўцы ў галіне меншаснай праблематыкі: асветнай, культурнай, увядзення двухмоўных назваў мясцовасцей і г.д. Ваявода Мэйер запэўніў:

— Я прашу падрыхтаваць інфармацыю аб магчымасці такога супрацоўніцтва з органамі мясцовага самакіравання ды нацыянальных і этнічных меншасцей і запрашэнне на такую сустрэчу.

Міністр Галіцкі:

— Супрацоўніцтва з самаўрадам павінна адбывацца. Упаўнаважаны па справах меншасцей мае тут інструменты і абавязак ініцыяваць і падтрымліваць такія сустрэчы.

На яго думку, самаўрадаўцы павінны ўдзельнічаць у падрыхтоўцы беларускіх адукацыйных праектаў, дакументаў такіх як распрацаваная мінулагодняя стратэгія развіцця адукацыі беларускай меншасці:

— Самаўрадаўцы не толькі павінны, але гэта таксама і ў іх інтарэсах.

Пазней Мікалай Мантур дэклараваў:

— Спрычынімся са спадаром ваяводам да таго, што такія сустрэчы будуць адбывацца.

Яўген Вапа таксама падняў пытанне адсутнасці інфармацыі аб факце выяўлення асоб, якія зафарбавалі двухмоўныя назвы ў гмінах Пуньск і Орля ды напалі на скіт у Адрынках.

Ваявода:

— З інфармацый, якія я маю, у большасці выпадкаў паліцыя не выявіла вінаватых і расследаванне было спынена.

Міністр:

— Гэта, вядома, скандал. Непачынанне расследу ў некаторых выпадках, бо ўжо на пачатку прыходзілі да высновы, што злачынцы могуць быць невыяўленыя, гэта ясны доказ, што некаторыя ўстановы маюць альбо змяніць свой персанал, або чагосьці не разумеюць, маю тут на думцы, напрыклад, пракуратуру, або неабходна правесці больш сур'ёзную асветніцкую кампанію.

Спасылаючыся на адмову чыноўнікаў МАіЛ прызначыць датацыю Фонду „Віла Сакрата" на сёлетнія „Трыялогі" (пісалі мы шырока пра гэты выпадак у адным з папярэдніх нумароў „Нівы"), і ў больш шырокім сэнсе пра падыход чыноўнікаў да заявак на гранты, старшыня Беларускага саюза сказаў:

— Атрымліваецца, што чыноўнікі ведаюць лепш, чым самі меншасці, што добрае для іх. Мераюць лінейкай тэксты, каб палічыць, якая вялікая частка маецца на гэтай мове. Мне загадваюць тлумачыцца, таму што адна з імпрэз не адбылася ў адпаведнасці з графікам, устаноўленым у папярэднім годзе, таму што госці спазніліся з-за таго, што мост у Баброўніках быў у рамонце. Як я меў гэта прадбачыць? Штосьці тут не так з логікай.

Міністр Галіцкі адказаў:

— З пункту гледжання крытэрыяў, я не думаю, што чыноўнік ведае лепш. Вядома, ён ведае менш, чым вы (...). Яшчэ раз з гэтым (з заявай датычнай „Трыялогаў" — М. Х.) пазнаёмлюся. Мерапрыемства можа быць захаваным. Выкажам здагадку, што мая дэкларацыя з'яўляецца воляй рэалізацыі як фестывалю, так і запрашэння адпаведных людзей такім чынам, каб „Трыялогі" маглі быць працягам мерапрыемства, якое было ў папярэдні раз для поўнага задавальнення не толькі вас, але значна далей, таму што гэтая культурная падзея выходзіць па-за межы рэгіёна.

Пасля сустрэчы ў размове з журналістамі міністр запэўніў больш адназначна:

— Папраўленая заява будзе разгледжана і перагледжана яшчэ раз са станоўчым фіналам, каротка сказаўшы: сёлетнія „Трыялогі" павінны быць праведзены.

Сярод тэм, якія абмяркоўваліся ў час сустрэчы, было пытанне аб падтрымцы для старанняў на жыхарства ў Польшчы крымскіх татар, праблеме дэпапуляцыі ў раёнах пражывання беларусаў (кранаў дэпутат Чыквін) і ўнясенне паправак у закон аб меншасцях, у якім — на думку выступоўцаў — павінен рэгулявацца прынцып выбару прадстаўнікоў меншасцей у сумесную камісію з урадам. Ігар Лукашук, старшыня Звязу ў карысць адукацыі і прамоцы беларускай культуры „Шчыты" прапанаваў:

— У мяне ёсць прапанова, каб пагаварыць пра меншасці як агульнае добра рэгіёна. Шматкультурнасць Падляшша з'яўляецца яго козырам. Нядрэнна было б стварыць адукацыйную, накіраваную ва ўсе школы праграму па гісторыі і культуры ўсіх меншасцей Падляшша як супольнасці, узгодненай на міністэрскім узроўні, у асноўным, Міністэрствам нацыянальнай адукацыі і МАіЛ.

Міністр Галіцкі пасля сустрэчы з меншасцямі наведаў таксама моладзь і выкладчыкі персанал Ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА





# Два маршы

Яшчэ паўтара года таму ніхто нават у страшным сне не мог прадбачыць тых падзей, якія зараз адбываюцца на паўднёвым усходзе Украіны. Танкі, гарматы, сістэмы залпавага агню, авіяцыя, пяхота... Бойня набыла настолькі жудасны і пачварны характар, што ўжо нельга выключыць аніякага, нават самага страшнага развіцця падзей, ажно да ядзернай бамбардзіроўкі. Ну а пакуль што і ў Маскве, і ў Кіеве людзі выйшлі на маршы.

Гэтыя акцыі — частка інфармацыйнай вайны, якая пасеяла такую разбуральную і знішчальную нянавісць, якой і атамная бомба пазайздросціць можа. Гэта яскрава паказаў той марш, які прайшоў у Маскве. Нават у гэты светлы дзень, які ў праваслаўных называецца даравальнай нядзеляй, праваслаўных людзей выгналі на вуліцы расійскай сталіцы з плакатамі і лозунгамі нянавісці. І замест прасіць у кагосьці прабачэння і дараваць іншым іх правіны, людзі дэкларавалі, што ніколі не забудуцца, і ніколі не даруюць. І чаму гэты марш адбыўся ў дзень даравання застаецца вялікай загадкай. Можа, каб паказаць асаблівы цынізм. А можа яго правялі як адказ на марш ва Украіне. Хоць ва Украіне, нават у Харкаве, дзе ў гэты дзень на мясцовым маршы адбыўся тэракт са смяротнымі ахвярамі, лозунгі былі значна больш чалавечныя.

Бліжэй да вечара эмоцыі перакачавалі з вуліц і плошчаў у сацыяльныя сеткі. І тут розніца ў расійскіх і ўкраінскіх жарсцях стала яшчэ больш відавочнай. Украінцы, якія ў гэты дзень правялі марш гонару ў Кіеве, прысвечаны памяці герояў нябеснай сотні, прасілі маліцца за іх. Маліцца за іх краіну, за іх народ, за іх салдат, што ўвесь час знаходзяцца пад агнём навейшай зброі, за іх палонных, асабліва за лётчыцу Надзею Саўчанку, якая ўжо два месяцы трымае галадоўку і знаходзіцца ў крытычным стане. Пісалі, што бароняць сваю зямлю і будуць ратаваць яе да канца, бо гэта іх абавязак.

Расіяне ж, у адрозненні ад маналітнай украінскай плыні ў сацыяльных сетках, выразна раздзяліліся на два непрымірымыя лагеры. Першы лагер, які, як мне здаецца, колькасна большы, рашуча і злосна стаў кляйміць і ганьбіць не толькі ўкраінцаў, але і той другі лагер. Праўда, нічога новага яны не сказалі. Маўляў, ва ўсім вінаватыя куратары з Вашынгтона, якія кіруюць нейкай кіеўскай хунтай. І што галоўная іх задача — знішчыць рускі свет. Разам з рускімі, канешне, а заадно і з украінцамі, і з беларусамі. І што яны ніколі не аддадуць ворагу Украіну. А ўсіх пераможуць, бо ў іх зараз ёсць моцны і сапраўдны лідар. Ды і ўвогуле Расію перамагчы немажліва ў прынцыпе. Сваіх суайчыннікаў з другога лагера яны называлі пятай калонай і здраднікамі, якія прадалі нацыянальныя інтарэсы. А яшчэ сцвярджалі, што тыя, нібыта, жывуць за амерыканскія грошы. І што з імі трэба распраўляцца гэтак жа як з бандэраўцамі і фашысцкай хунтай.

Другая расійская плынь аказалася прама супрацьлеглай першай, хоць і меншай. Яны стараліся растлумачыць агрэсіўнасць сваіх суайчыннікаў вынікам ашалелай тэлепрапаганды і інфармацыйнай вайны. Прасілі прабачэння ва ўкраінцаў і спадзяваліся на хуткае абуджэнне свайго народа ад крымнашысцкага дурману. А яшчэ ў хуткім часе яны плануюць свой марш, галоўнай мэтай якога будзе паказаць, што не ўсе расіяне падзяляюць палітыку Крамля.

Якім будзе той марш, сказаць зараз цяжка. Але гэтыя маршы, якія адбыліся зараз у даравальную нядзелю, яскрава паказалі як маналітнасць і аб'яднанне ўкраінскага грамадства вакол ідэй незалежнасці сваёй краіны, так і раскол расійскага грамадства. Прычым раскол такі, які можа прывесці да моцнага грамадзянскага канфлікту, па маштабах не меншага, чым зараз ва Украіне. Цяпер у гэта не верыцца. Але ж яшчэ паўтара года таму таксама не верылася, і ніхто нават у страшным сне не мог прадбачыць тых падзей, якія зараз адбываюцца на паўднёвым усходзе Украіны.

У Беларусі ж аніякіх маршаў не было. Усё ціха. Толькі ў сацыяльных сетках усё часцей сталі выстаўляцца анекдоты прыкладна такога зместу:

— Ці доўга трэба чакаць змен да лепшага, — пытаецца вучань у майстра.

— Калі чакаць, то доўга, — адказаў той.

**Віктар САЗОНАЎ**

# З самага пачатку і да канца



Гісторыя любіць паўтарацца. Калі не ў шырока распаўсюджанай формуле, то ў яе пераўвялічаным падабенстве або вялікіх подзвігах малых людзей, або аб малых — яшчэ меншых. У якасці папярэджання. Але хто калі звяртаў увагу на мудрыя падказкі?

У старажытныя часы даволі намяшаў нейкі Фірм — егіпецкі купчык, які абвясціў сябе імператарам. Гэта быў час беспарадкаў. Унутраны расстрой памалу псаваў Рымскую імперыю. Егіпет, які з часоў Клеапатры быў яе жытніцай і найбольш важнай правінцыяй, ахапілі непаладкі. Рым доўга не мог над ім узяць кантролю. Анархія малых злодзеяў і бандытаў, ашуканцаў і цынікаў завявала краіну. Шырыўся голад, паглыблялася галеча. У рэшце рэшт правінцыя ў часы імператара Аўрэліяна вярнулася да Рыма (273 г. н.э.), але да гэтага з'явіўся той Фірм. У «Гісторыі Аўгуста» адзін з яе аўтараў піша, што ездзіў ён на страўсах, мог таксама зжэрці за адным махам гэтую вялікую птушку, і нават патрабаваць дабаўкі. Ён нават быў у стане пераварыць без шкоды для страўніка тлустае бегематовае мяса. Кажуць, вадзіў крадзілаў на павадку, як канапных сабачак. Любіў выхваляцца ў той жа час сваёй сілай. Клаў кавадла на сваю галаву і загадваў, каб білі ў яго молатам. Часам лопаўся молат, часам кавадла з кепскага сплаву, а разумак Фірм, як быццам нічога не здарылася, адразу ж браўся грызці бегематовы косткі. Таму, што больш бяседаваў, чым кіраваў разам з групай такіх жа махляроў і прахвостаў. Ведаў, аднак, што прапаганда неўтаймаванага абжорства тым больш эфектыўная, чым больш егіпцянам у вочы заглядае голад. Усе ж таілі ў сабе надзею, што, нарэшце, штосьці і для іх капне з панскага стала. На самой справе, крышынкамі, акрашанымі эфектыўнай прапагандай поспеху, можна наесціся, але ці ўволю? Гісторыя адказвае на гэта адназначна: праўда, на жаль, як дзярмо — заўсёды выплывае на паверхню. І як дзярмо сыходзіць у нябыт разам з патокам падзей.

Аб Пуціне ведаем значна больш. І я не маю на ўвазе цалкам дакладныя ўцечкі даных аб яго асабістым рахунку, на якім, кажуць, сабраў ён многа дзясяткаў мільярдаў долараў. І не тое, што тоўк ён сваю жонку. Таксама факту, што ён любіў добра напіцца. Гэтая інфармацыя да гэтага часу не доказана, значыць, неправераная. У адрозненне ад гэтага, можна быць упэўненым, што Пуцін змагаецца з хваробай, якая называецца хваробай Піка. Хвароба Піка прымае розныя формы: ад літафагіі — паядання камянёў, праз трыхафагію — валасоў або воўны, гіалафагію — шкла, аж па мукафагію — паядання ўласных козаў з носа. Прыхільнасць да апошніх ласункаў выяўляў сумнавядомы і, на шчасце, былы ўжо прэм'ер-міністр Італіі Сільвіё Берлусконі. Ва ўсякім выпадку, гэтая хвароба даволі распаўсюджана сярод дзяцей усіх кантынентаў і краін. Такім чынам, калі малы карапуз калупае ў сваім носе, то памятайце, што ён робіць гэта небескарысліва. Пуцінская хвароба Піка — украінафагія. Яна павінна разглядацца ў якасці вытворнай русафагіі, старанна схаванай. Тое, што Украіну грызе ён па частках і жыўцом, гэта толькі частка яго нямогласці. Раней раскалупаў ён Расію, і што з яе ўзяў, ужо пераварыў, а ўсё паказвае на тое, што не будзе ён спыняцца на дасягнутым. Толькі чым будзе Расія, калі раскалупае яе ўшчэнт? Унутрана разладжаную — як і Рым да яго ганебнага падзення — Расію разрабаваную, палітычна раскрадзеную, сацыяльна дэмаралізаваную і... падманутую?

Тым часам, пуцінская прапаганда пастаянна распальвае імперскія комплексы расіян. Крым — наш! Украіна — наша! А Прыбалтыка, Беларусь, а і Польшча? Няхай жыве Савецкі Саюз! Гэтае дэфектнае тварэнне цяністых прапагандыстаў і шэрых, патаптаных людзей. Падступнае тварэнне роўна шэрай, як злавесная ідэі панавання над народам. Адным словам: монстр! Прапагандысцкі цмок!

Ці ведаеце вы што на самой справе адбываецца ва Украіне? Вось прапуцінскі тэлеканал «Расія 1» паведамляе расіянам, што з усходняй Украіны ў Варшаву ляцяць на самалётах цэлы соцень польскіх жаўнераў. Іншая вестка — пра «ўкрафашыстаў», якія ўкрыжавалі малога хлопчыка на плошчы ў Славянску... І расіяне вераць у такое. Як і раней егіпцяне верылі Фірму. Гэта праўда, што Гісторыя любіць паўтарацца — усё з самага пачатку і да канца.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Жахлівае BelToll

Тыдзень таму я абяцаў апісаць свае ўражанні ад кантакту з платнай дарожнай сістэмай у Беларусі, якая афіцыйна называецца: **BelToll** — электронная сістэма аплаты за праезд па платных дарогах Рэспублікі Беларусь. Першыя ўражанні: яна працаёмкая, дарагая і фінансава крыўдная для замежнікаў, у тым ліку турыстаў, якіх так запрашаюць наведаць Беларусь тамашнія разнамасныя дзяржаўныя чыноўнікі. Тым часам **BelToll** палохае. Тарыфы на некаторых участках дарог абавязваюць у Беларусі са жніўня 2013 г. У агульнай складанасці сістэмай **BelToll** ахоплена 1189 км дарог. Трэба заплаціць за праезд, між іншым, на маршрутах: Мінск — Гродна — пямежны пераход у Брузгах (245 км); пямежны пераход Казловічы — Брэст — Мінск — пераход Рэдзькі на мяжы з Расіяй (609 км) і Мінск — Нацыянальны аэрапорт (27 км). Зарэгістравацца ў сістэме **BelToll** і заплаціць за праезд абавязаны: кіруючыя транспартным сродкам або складамі транспартных сродкаў з масай звыш 3,5 тоны (грузавікі, аўтобусы, машыны з кемпінгам) і кіруючыя аўтамабілямі з поўнай масай меншай за 3,5 тоны (легкавыя аўтамабілі і мікраўтобусы), зарэгістраваныя за межамі Мытнага саюза (Беларусь, Расія, Казахстан). У адпаведнасці з распараджэннямі беларускага Міністэрства транспарту, уводзіцца аплаты за праезд па іх у залежнасці ад дапушчальнай масы брута і колькасці восей транспартнага сродку. Напрыклад, кіроўцы транспартных сродкаў з максімальнай масай больш за 3,5 тоны плацяць 0,04 еўра за кіламетр, але з больш чым 3,5 тоны з дзвюма восямі — 0,09 еўра. Што важна: плата павінна быць выплачана толькі ў беларускіх рублях і наліўнае мінімум 25 еўра. Каб аплаціць праезд, кіроўца павінен увайсці ў сістэму **BelToll** і ўплаціць дэпазіт за невялікую прыладу **OBU** (20 еўра для аўтамабіля з масай 3,5 тоны і 50 еўра з большай масай), якую неабходна прыклеіць у бачным месцы лабавога шкла. Трэба звярнуць увагу, што калі ветравое шкло ў аўтамабілі люстранае, трэба звярнуцца да... вытворцы аўтамабіля, каб той вызначыў месца ўстаноўкі прылады. Дэпазіт і аплату можна зрабіць у адным з пунктаў абслугоўвання кліентаў, блізка да мяжы (займае крыху часу, каб яго знайсці, хаця на вэб-сайтах знаходзяцца карты, на якіх яны памечаны). Працэдура падпісання пагаднення і вусных тлумачэнняў датычных усіх нюансаў выкарыстання бартавога абсталявання і разліку дэпазіту за яго ды магчымага наддатка дарожнай платы займае каля сарака хвілін. Каб у месцы абслугоўвання кліентаў падпісаць дамову на шасці старонках, пад кожным з яе пунктаў трэба распісацца, у агульнай складанасці дзесяць раз. У аканцы трэба прадставіць: дакумент (арыгінал або копію), які пацвярджае рэгістрацыю юрыдычнай асобы або індывідуальнага прадпрымальніка (не тычыцца фізічных асоб), дакумент асобы адказнай за рэгістрацыю, даверанасць для падпісання дамовы, пашпарт транспартнага сродку (арыгінал або копія), сертыфікат класа эмісіі выхлапных газаў (арыгінал або копію, у залежнасці ад наяўнасці) у выпадку, калі ён не далучаны да рэгістрацыйных дакументаў. У кропцы абслугоўвання кліентаў пры куплі бартавой прылады можна даведацца, што часам яна можа не спрацаваць па дарозе на адмыслова пастаўленых металёвых парталах і калі яна не засігналіць, трэба патэлефанаваць на спецыяльную гарачую тэлефонную лінію. Штрафы за недахоп бартавой прылады або калі яна не працуе ды аплаты за праехаханыя кіламетры могуць складаць нават да некалькіх тысяч еўра, аб чым польскі турыст можа даведацца ўжо на мяжы на зваротным шляху.

Разам з дэлегацыяй на чале з дырэктаркай Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі Агнешкай Карыткоўскай-Мазур, едучы ў Мінск і Гродна, перасякаў я мяжу ў Баброўніках — Бераставіцы. Вярталіся мы праз мяжу Брузгі — Кузніца-Беластоцкая. Бартавая прылада некалькі разоў сігналіла. Па шляху, на абочынах дарогі, мы прайшлі некалькі патрулёў міліцыі. Дэпазіт і плату за непраехаамыя кіламетры вярнулі нам у пункце абслугоўвання кліентаў проста перад мяжой з Польшчай — у беларускіх рублях. Не знайшлі мы ў ваколіцы абменніка, каб абмяняць іх на еўра або долары. Не ведаючы, што рабіць з беларускімі банкнотамі, укінулі мы іх у шкляную скарбонку з надпісам „Ахвяраванні", змешчаную, мабыць, невыпадкова насупраць акенца абслугоўвання кліентаў. Лопала яна ўжо ад банкнотаў наміналамі 100- і 200-тысяч беларускіх рублёў. Нават калі б мы іх абмянялі, дасталі б з нашых кішэняў розніцу паміж цаной продажу і куплі замежнай валюты (1 еўра каштавала амаль 17 тысяч 600 рублёў; курс вагаецца штодня, і нават розны ён на працягу аднаго дня). Мы адчулі сябе падманутымі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Юры Каліна — кіналетапісец з Падляшша




— Найважнейшы для мяне фільм гэта той, якім я зараз займаюся. У яго менавіта ўкладаю ўсе свае мастацкія здольнасці, аддаю ўсе сілы і намаганні ды прысвячаю свой час. Зразумела, што неабавязкова ў канчатковым выніку атрымаецца найлепшы фільм, які прыкмецяць не толькі ў Польшчы, але і за мяжою, за які атрымаю прызы ці хаця б вылучэнні, — кажа Юры Каліна.

Яго апошні фільм «Сейбіт» быў нядаўна ўзнагароджаны на Міжнародным Срэценскім праваслаўным кінафестывалі «Сустрэча» ў Расеі. Фільм Каліны ўзнагародзілі за «захаванне традыцыі і ўклад у развіццё сучаснай праваслаўнай культуры». Гэта восьмая ўзнагарода для фільма. Больш толькі прызоў атрымаў ягоны дакументальны фільм «Архімандрыт» — 11.

**Юрка Ляшчынскі: — Вялікая частка Тваіх фільмаў, як і рэпартажаў, датычыць Падляшша, яго жыхароў — беларусаў, праваслаўных. Чаму?**

Юры Каліна: — Перш за ўсё таму, каб тое, што мы тут робім і што рабілі нашы продкі, убачылі людзі. Таксама і за мяжою. Ну і дзеля гэтага я раблю фільмы пра Падляшша.

**Ю. Л.: — Фільм «Сейбіт» атрымаў таксама прыз на Каталіцкім фестывалі хрысціянскіх тэлеперадач у Глыбокім на Беларусі.**

Ю. К.: — Так, кінафестываль называецца «Магніфікат». І хаця гэта каталіцкі фестываль хрысціянскіх фільмаў там прымаюць фільмы не толькі на рымска-каталіцкія тэмы, але і пратэстанцкія, і праваслаўныя. Я там быў бадай тры разы. Фестываль праходзіць у Менску, а потым у Глыбокім. Гэта такое прыгожае мястэчка, сярод азёраў. Прыемна тамака пабываць, сустрэцца з сябрамі па прафесіі. Цяпер узнагародзілі там «Сейбіта», раней вылучылі «Архімандрыта». Ну, відаць там такі лакальны экуменізм, таму і дацэньваюць фільмы пра людзей іншых канфесій. Але «Сейбіт», так бы мовіць, толькі пачынае сваё «фестывальнае жыццё». Ён яшчэ не мае года і будзе ездзіць па розных фестывалях. Магчыма і там спадабаецца.

**Ю. Л.: — Прыгадаю Твае ранейшыя фільмы: «Чарнобыльцы», «Ад мору і голаду», «Пагоня за праўдай», «Партызанская школа», «Балада пра Мелянкі», «Місія». Яшчэ раней быў фільм пра вазакоў. Колькі часу трэба, каб зрабіць добры дакументальны фільм?**

Ю. К.: — Добры фільм трэба рабіць як найдаўжэй. Ведаеш, каб сур'ёзна заняцца і паказаць тэму ўсебакова, якую раней прыдумаў і зрабіў салідную дакументацыю, доўга робіцца. Гэта перш за ўсё залежыць ад фінансавых магчымасцей. Тое, што мы хочам зрабіць доўгі і добры фільм — гэта адно, але яшчэ павінен на гэта пагадзіцца прадзюсар, які вылучае грошы. На пачатак аўтар піша сцэнарый, потым прадзюсар да сцэнарыя піша бюджэт, а пасля яшчэ нехта павінен зацвердзіць усё сваім подпісам. У сярэднім дакументальнае кіно, такі поўнаметражны 52-хвілінны фільм робіцца 10, 20 ці нават 30 дзён. Я чытаў інтэр'ю з Ежы Гофманам, які славутую дуэль Кміціца з Азіям Тухайбеевічам у фільме «Патоп» здымаў 9 дзён. А ў фільме гэтая дуэль трывае ўсяго паўтары хвіліны. Ну, але яны мелі іншыя магчымасці, а мы маем іншыя. Для прыкладу, рабілі мы здымкі пра архімандрыта Гаўрыіла амаль тры гады, пра Дарафея Фіёніка паўтара года. Трэба заўсёды карыстацца ўсялякімі магчымасцямі, нават пра гэта неабавязкова павінен ведаць прадзюсар, каб зняць, што хочаш.

Вось зараз здымаю чарговую стужку, таксама пра героя з Падляшша, пра Сяргея Нічыпарука. Ну і задумалі мы зняць яго на фоне зуброў. Была заснежаная пушча, было адпаведнае надвор'е — сонечнае, быў герой, дамовіліся з дырэкцыяй Нацыянальнага парку, з ляснічым, усё было як трэба, але толькі зуброў не было. Ну і такім чынам адзін здымачны дзень з тых дзевяці, якія я маю, прапаў. Прыйдзецца другім разам ехаць і шукаць зуброў.

**Ю. Л.: — Дакументальны фільм гэта не толькі здымкі, гэта і музыка і шмат яшчэ чаго.**

Ю. К.: — Здымкі гэта асноўнае, а потым маем гэтак званую постпрадукцыю — менавіта мантаж, музыку. Часта трэба знайсці кампазітара, каб напісаў адмысловую да фільма музыку, гэта таксама «спецыяльныя эфекты», гэта анімацыя і ўрэшце карэктура відэа і фону. Постпрадукцыя таксама займае шмат часу, бывае што і да паўгода. Да фільма «Сейбіт» пра Дарафея Фіёніка я запісаў 25 гадзін здымкаў — сырога матэрыялу, а з іх трэба было зрабіць усяго 52 хвіліны. Гэта патрабуе вялікага інтэлектуальнага і фізічнага высілку. Я мусіў распісаць усё хвіліна па хвіліне, сцэна па сцэне, выказванне па выказванні, музыка пасля музыкі — на паперы, у сваім чарнавіку. І пасля, калі ўсё маеш распісанае на паперы, ёсць сэнс ісці на мантаж. Гэта складаны працэс. Праўда, прафесія як кожная іншая. Каб спячы хлеб, таксама трэба ведаць усе паасобныя працэсы.

**Ю. Л.: — Гэта таксама 20 гадоў Твае прафесійнае працы. Цяпер робіш фільмы пра людзей з Падляшша, але быў час, калі рабіў дакументальнае кіно пра Беларусь.**

Ю. К.: — Калі на нашых вачах у пачатку 1990-х гадоў пачала адраджацца незалежная Беларусь, для тэле- ці радыёжурналістаў, скажам і для Цябе, натуральным было паехаць туды і паказваць як на нашых вачах адбываецца адраджэнне. Нараджалася сапраўдная беларуская дзяржава, дзе была і Пагоня, і гімн, і бел-чырвона-белы сцяг, і беларуская мова, і беларускія дэпутаты. Я там шмат чаго зрабіў, пазітыўныя рэчы паказваў, з часам штораз больш адмоўнага там было — таксама паказваў. З'ездзіў у чарнобыльскую зону, паказваў як людзі там жывуць, паказваў лёс незалежных журналістаў, якіх ужо пры Аляксандры Лукашэнку пачалі саджаць у турмы. Урэшце я зрабіў фільм пра Аляксандра Лукашэнку «Апошні дыктатар» і гэта быў апошні фільм, які я зрабіў пра Беларусь. Бо пасля на пяць гадоў стаў неўязным у Беларусь. Але потым то я не хацеў ужо ездзіць у Беларусь. Калі чалавек малады, то думаў: вось тут адраджэнне, змаганне, ледзь не рэвалюцыя і здавалася, што нешта фільмамі памяняю. Аказваецца, не ўзмозе мы гэтае зрабіць. І таму, калі крыху пастарэў, мо паразумнеў, дайшоў да вываду, што варта ізноў вярнуцца на Падляшша, пакуль яшчэ ёсць магчымасці, сілы і ахвота, паказваць пазітыўныя прыклады, пазітыўных людзей з нашай тут малой бацькаўшчыны. Тых, якія могуць быць нейкім узорам, аўтарытэтам, а якіх большасць суродзічаў так і не ведае.

**Ю. Л.: — Я бачыў Твой фільм пра манастыр у Саках, але з таго, што ведаю, у публічным тэлебачанні ён дагэтуль не быў паказаны.**

Ю. К.: — Гэта дзіўна, таму што эпізоды звязаныя з забойствам беларускага мірнага насельніцтва ў 1946 годзе, здзейсненыя атрадам польскага ўзброенага падполля, якім камандаваў Рамуальд Райс псеўданім «Буры» раней паказваліся. Я рабіў рэпартажы пра гэта, вы на радыё рабілі, «Ніва», «Часопіс», «Пшэглёнд праваслаўны» пісалі. Гэта ж справа не новая, мо звыш 20-гадовай даўнасці. Зараз пра гэта, як не дзіўна, не вельмі можна гаварыць, прынамсі на тэлебачанні. Я зрабіў фільм перш за ўсё пра манастыр у Саках, але там ёсць сюжэт пра Залешаны (Залешаны ўсяго два кіламетры ад Сакоў), пра 1946 год, але дырэкцыя Беластоцкага тэлебачання вырашыла гэты фільм не паказваць. Ён цяпер «палкоўнік», а «палкоўнікамі» калісь, пры Народнай Польшчы, называлі фільмы, якіх цэнзура забараняла і якія залежваліся на паліцы. Можна сказаць, што я ў сваёй фільмавай біяграфіі ў вольнай і дэмакратычнай Польшчы маю «палкоўніка». Не ведаю яшчэ добра гэта ці дрэнна.

**Ю. Л: — Думаю, што мецъ «палкоўніка» менавіта ў вольнай і дэмакратычнай Рэчы Паспалітай, гэта таксама нейкае, не абы-якое прызнанне. Дзякую за размову і жадаю далейшых творчых поспехаў.**

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**
**Беларускае Радыё Рацыя**



**„«Сейбіт». Герой фільма — жыхар раёна Студзіводы ў Бельску-Падляшскім Дарафей Фіёнік: беларус, грамадзянін Польшчы (як і ягоныя продкі), выпускнік праваслаўнай духоўнай семінарыі, рэгент царкоўнага хору, стваральнік Музея малой бацькаўшчыны ў Студзіводах, рэдактар этнаграфічнага часопіса «Бельскі гостінэць», аўтар кніжак пра гісторыю рэгіёна. Ён заснаваў гурт «Жэмэрва», што выконвае аўтэнтычны фальклор Падляшша, а кіруе калектывам ягоная сястра Анна Фіёнік. Дарафей рэгулярна ладзіць этнаграфічна-фальклорныя імпрэзы з удзелам ансамбляў з Беласточчыны і беларускага Палесся. Фільм Юрыя Каліны распавядае менавіта пра яго і ягоную дзейнасць.**

## Я зразумеў...

Ужо 25 гадоў безупынна адбываецца псаванне асветнай сістэмы, дарэчы, не толькі яе адной. У выніку выходзяць у свет чарговыя пакаленні ёлупняў, якія не толькі што не ведаюць чым адрозніваюцца Бухарэст ад Будапешта, ці Шапэн ад Шапенгаўэра, але і не ведаюць у прыстойнай ступені польскай мовы, не гаворачы аб іншых мовах. Абяцаю, што з гэтага моманту такі стан больш крытыкаваць не буду, паколькі дайшоў я да вываду, што які час, такая і асвета. І калі маладыя такім станам задаволеныя, дык я, стары дзед, не павінен гэтага ўсяго крытыкаваць. Мой час прайшоў, прайшла таксама эпоха салідна адукаваных людзей.

А што мяне схіліла да змены стаўлення і да такой высновы? А менавіта Першая праграма Польскага радыё. Шторaз цяжэй прыходзіцца мне ўспрымаць радыёбалбатню. Стараюся нічога не слухаць, акрамя прагнозаў надвор'я і музыкі. Але часам не магу адразу падысці да радыёпрыёмніка, каб яго выключыць. І таму — як здарылася гэта некалькі дзён таму — нешта пападае мне ў вуха. Менавіта тады, за няпоўную гадзіну, даведаўся я па радыё, што нейкая „чарговая заваёва працоўнага свету ўступіць у сілу на працягу паўтара года". Быццам бы гэтай навіны было мала, мне падказалі, што „да дыялогу патрэбныя тры бакі". Калі і гэта я каўтнуў, чарговы геній мікрафона суцешыў мяне, што „будзем супрацоўнічаць, а нават каапераваць". І тады мне камень зваліўся з сэрца, а заслона цемнаты і адсталасці — з вачэй. Зразумеў я, што гэта ўжо не мой свет і надышла пара, каб як найхутчэй адысці адтуль і на зямлі зрабіць месца маладому пакаленню. Урачыста абяцаю зрабіць гэта. Але ці абяцанне здзейсніцца „на працягу паўтара года", ад мяне не залежыць. Так што вытрымайце са мною, маладыя геніі, а пасля балбачыце сабе колькі заўгодна. Можа хтосьці вас зразумее...

## У Сямятыцкім павеце

У сямятыцкай лакальнай прэсе новы (пасля чатырохгадовага перапынку) стараста павета Ян Залеўскі расказвае пра планы сваёй установы на найбліжэйшую будучыню. Для жыхароў павета важнай справай з'яўляецца стан лакальных дарог. А ў павеце павятовых дарог каля 600 кіламетраў, з чаго палова дрэнных і вельмі дрэнных. Сваіх сродкаў на вырашэнне дарожнай праблемы вельмі мала, таму неабходныя вонкавыя фонды. Стараста спадзяецца на еўрасаюзныя грошы, якія, як вядома, часта аказваюцца віламі па вадзе пісанымі. Таму з'явіўся намер працягнуць руку па гмінныя бюджэтныя сродкі. Ці ж гміны Сямятыцкага павета такія багатыя, каб аддаваць грошы вонкі? А можа зноў абмяжуюць выдаткі на асвету і ахову здароўя, як да гэтай пары?

Канкрэтна гаворыцца пра перабудову дарогі ў Карыцыны. Сапраўды, шторaз больш людзей шукае даезду да тамашняга „Травянога закутка", які памалу вырастае на адзін з турыстычных атракцыёнаў павета. Праўдападобна будзе таксама шанц адрамантаваць „Напалеонаўскую дарогу" з Драгічына ў Дзядковічы. І гэта пакуль усё, што не застаецца ў сферы мараў і пажаданняў. Не надта многа гэтага, але ж трэба жыць па сродках.

Традыцыйна ў размове ніводным словам не было сказана пра стан дарог ва ўсходняй, „рускай" часткі павета. Але няма чаму здзіўляцца: электарат праваслаўных вёсак так разбіты, што не пагражае кандыдатам са „шляхецкага" боку павета, таму і іхнія патрэбы ўлічваць не абавязкова. Тым больш, што большасць павятовых дэпутатаў і чыноўнікаў паходзіць з гэтай жа часткі павета, што і стараста.

У далейшым абавязвае ў нас адзін з асноўных прынцыпаў дэмакратыі: усе грамадзяне роўныя. Толькі некаторыя з іх — больш роўныя, а і сонейка цяплей ім грэе.

**М. Ц.**

Тэатральны калектыў «Антракт» Бельскага дома культуры, які дзейнічае з верасня 1997 года пад кіраўніцтвам тэатральнага інструктара Альжбеты Фіёнік, 16 лютага наладзіў цыклічнае мерапрыемства «Тэатральныя запусты». Члены «Антракта» — дашкольнікі, вучні падставовых школ, гімназісты, ліцэісты і дарослыя асобы — захапілі шматлікую публіку сабраную ў канцэртнай зале БДК. Выступленні завяршылі члены Тэатра сеніёра «Рэтра», які таксама вядзе Альжбета Фіёнік.



# Бельскі «Антракт»

Сабраных прывітала загадчыца Аддзялення мастацкай адукацыі Бельскага дома культуры Яніна Плютовіч, а мерапрыемства ўдала павялі шматгадовыя члены «Антракта» Патрыцыя Буркевіч і Марта Зінкевіч. Дзеткі і моладзь з тэатральнага калектыву «Антракт», мяшаная група акцёраў з «Антракта+» і акцёры Тэатра сеніёра «Рэтра» паказалі чатыры тэатральныя пастаноўкі, а вучні дэкламавалі па-польску і па-беларуску. Асаблівае зацікаўленне выклікала фальклорная група «Антракт+», якая запрэзентавала тэатралізаваны абрад «Жніво даўней і сёння», выступаючы на мясцовым дыялекце беларускай мовы і выконваючы жніўныя песні. У студзені «Антракт+» на калядным аглядзе «Гвязда і калядка» ў Беластоку запрэзентаваў абрад «Гагатуха». Гэтая група выступала ў мінулым годзе на мерапрыемствах «Беларускі абрад на сцэне» і Спасаўскія запусты. «Антракт» прэзентаваў наш фальклор у час мерапрыемства «Абрады на святога Юрыя» ў Студзіводах, Веснавога фестывалю «Там по маёвуй росі», Падляшска-Палескага фестывалю «Олень по бору ходіт», Сусветнага фестывалю мельніцкага каравая ў Мельніку. На тэатральных запустах «Антракт+» захапіў публіку акцёрствам, цікавымі дыялогамі, жніўнымі песнямі, сцэнічным афармленнем і, канешне, уборамі, стылізаванымі на сялянскую вопратку XIX стагоддзя. Дзеткі па-акцёрску выступілі з пастаноўкай «Вялікая прыгода малой Зосі», старэйшыя вучні займальна запрэзентавалі пастаноўку «Ратуйце», а тэатр «Рэтра» ўдала паказаў пастаноўку «Неадгаданая натура чалавека». Усе тэатральныя выступленні ў канцэртнай зале дома культуры спадабаліся публіцы.

— Я люблю рыхтаваць сцэнарыі пастановак. У мінулым годзе падрыхтавала сцэнарый пастаноўкі «Неадгаданая натура чалавека», якую мы пачалі іграць у мінулым годзе і паказваем цяпер, на Тэатральных запустах, — сказала Альжбета Фіёнік.

— Тэатральная дзейнасць — гэта вучоба правільнаму вымаўленню, спевам, танцам, падборка адпаведнай музыкі, рыхтаванне сцэнарыяў і, канешне, вучоба акцёрскай ігры на сцэне. Я раней займалася ў БДК тэатральнай дзейнасцю, а з 1997 года вельмі ўдала робіць гэта Альжбета Фіёнік. Многа часу, энергіі і здольнасці адводзіць яна «Антракту» на шматлікія рэпетыцыі і выезды з выступленнямі. Гэтую цяжкую працу выконвае яна вельмі добра. Вучні Альжбеты ўдала прэзентуюцца з пастаноўкамі ў нашым доме культуры, у прадшколлях, іншых установах горада і паспяхова выступаюць на конкурсах. Перамагаюць яны на тэатральных аглядах, у дэкламатарскіх конкурсах. Цікава паказваюць мясцовыя абрады. Падчас тэатральных запустаў адбываецца падвядзенне вынікаў нашай тэатральнай дзейнасці, — сказала загадчыца Аддзялення мастацкай адукацыі БДК Яніна Плютовіч.



Альжбета Фіёнік і Яніна Плютовіч (справа)

Тэатральны калектыў «Антракт» выступае з пастаноўкамі на польскай і беларускай мовах. Прызавыя месцы на дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова» ў мінулым годзе занялі Максім Фіёнік і яго малодшы брат Ілья. Удала дэкламавалі таксама Павел Кучынскі, Кацярына Левандоўская, Аляксандра Зінкевіч і іншыя вучні. Большасць згаданых выступілі таксама ў абраднай пастаноўцы «Жніво даўней і сёння».

— Займацца ў тэатральным калектыве прапанавала мне мама і я раблю гэта ўжо гадоў пяць. У нашым «Антракце» вельмі файна. Мы многа рэпецыруемся, але таксама жартуем і адпачываем, знаёмімся з паэзіяй. Займаючыся ў фальклорнай групе, мы знаёмімся з нашымі традыцыямі і культурай, — сказаў Ілья Фіёнік, якога малодшая сястрычка Таіса разам з братам выступіла ў жніўнай пастаноўцы.

— Нам вельмі падабаюцца тэатральныя заняткі ў доме культуры пад апекай Альжбеты Фіёнік. Мы, між іншым, вучымся размаўляць на беларускай літаратурнай мове і на нашай гаворцы, — заявілі Аляксандра Зінкевіч і Юсцінія Марчук.

Катажына Левандоўская, якая ўжо трэці год прыязджае на тэатральныя заняткі ў Бельск з Гайнаўкі сказала, што ёй вельмі падабаецца гульня ў тэатр і дэкламацыя. Бельскі белгімназіст Павел Кучынскі нават разважае ці ў будучыні не паспрабаваць сіл у тэатральнай школе. Вучаніцы бельскай «тройкі» Паўліна Нямойская і Марта Мацкевіч таксама гуляюць у тэатр, а раней удзельнічалі ў дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова». Бельскі белгімназіст Максім Фіёнік, які займаецца між іншым у тэатральнай групе «Антракт+», 23 студзеня гэтага года атрымаў стыпендыю маршалка Падляшскага ваяводства.

— Я вельмі рады, што атрымаў стыпендыю, якую прызначылі мне, між іншым, за паспяховую тэатральную і дэкламатарскую актыўнасць. Сёння я дэкламаваў твор «Князь», з якім заняў першае месца на мінулагоднім конкурсе «Роднае слова». Я з першага класа пачатковай школы займаюся ў «Антракце» і такая актыўнасць мне вельмі падабаецца, — сказаў Максім Фіёнік.

— Фальклорная група «Антракта» на конкурсах заняла многа пераможных месцаў. На працягу нашай дзейнасці мы паказвалі абрады «Жніво», «Вяселле», «Хрысціны», «Юрыя», «Агулькі», «Калядаванне», «Шчодры вечар». Мы выступалі з пастаноўкай «Рэкруты», у якой паказвалі цяжкую долю салдат-навабранцаў у царскім войску. Цяпер «Антракт» пачаў рыхтаваць пастаноўку «Бежанства», бо ў гэтым годзе міне сотая гадавіна з моманту, калі нашы продкі падаліся ў глыб Расіі, у бежанства, — расказвала тэатральны апякун «Антракта» Альжбета Фіёнік. — У «Антракце+», які паўстаў на аснове фальклорнай групы «Антракта» і дзейнічае яшчэ коратка, добрая атмасфера. Выступаюць там і дашкольнікі, як мая дачка Таіса, і вучні пачатковай школы, і гімназісты, і нашы сеніёры. Я гавару, што гэтая група — з 15 асоб, якія хочуць супольна гуляць у тэатр — аб'ядноўвае пакаленні.

«Антракт» у мінулым годзе заняў першае месца (раней таксама перамагаў) на Ваяводскім аглядзе вясковых і абрадавых тэатраў у Ломжы. Калектыў перамагаў таксама на Конкурсе тэатральных калектываў у Гайнаўцы, паказваў абрады на Аглядзе абрадавых калектываў у Гарадку. У Тэатры сеніёра «Рэтра» іншая атмасфера, чым у «Антракце+», бо не выступае ён з абрадамі.

— Нас, якія амаль год займаемся ў Тэатры сеніёра «Рэтра», усяго чатыры асобы. Мы ўжо выступалі ў Бельску-Падляшскім, а нават у Варшаве, — сказала арганізацыйны кіраўнік хору песні і танца «Васілёчкі» Ніна Бялецкая, ад нядаўна таксама ўдзельніца тэатра. — Гульня ў тэатр мне вельмі падабаецца. У «Васілёчках я кірую дзейнасцю цэлага хору, а ў тэатры ў час рэпетыцый і выступленняў я адпачываю. Калі «Васілёчкі» паказвалі тэатралізаваныя народныя абрады, я рыхтавала да іх сцэнарый і распісвала дыялогі на паасобных людзей, якія ўмелі гаварыць пасвойму. Мы паказвалі таксама тэатральныя сцэнкі на беларускай літаратурнай мове. Сёння мы выступілі з цікавай пастаноўкай і я рада, што яна спадабалася публіцы.

Альжбета Фіёнік удакладніла, што ў тэатры «Рэтра» і калектыве «Антракт+» з ліку сеніёраў займаюцца Уладзімір Весялоўскі, Ян Аніськевіч і Галіна Савіна. Сказалі яны мне, што радуе іх магчымасць займацца з дзеткамі, вучыць іх абрадам і самім рыхтавацца, а пасля паказаць тэатральнай публіцы. Выступаючы у тэатры «Рэтра» ўспамагла на сцэне спадарыня Яніна Плютовіч.

— Акцёрскай ігры на сцэне я вучыўся ў драмгуртку Беларускага грамадска-культурнага таварыства, які дзейнічаў у маіх родных Пасынках. Мы выступалі на Бельшчыне і Гайнаўшчыне з камічнымі пастаноўкамі на літаратурнай беларускай мове. Я жыў беларускім тэатрам і пасля, ужо ў Бельску-Падляшскім, не хапала мне тэатральнай актыўнасці. Я быў вельмі рады, калі з «Васілёчкамі» прыходзілася рыхтавацца да абрадавых выступаў. Я люблю іграць камічныя пастаці, — адзначыў Уладзімір Весялоўскі. — Мне асаблівa падабаецца ігра з дзеткамі, дзе патрэбны дзядуля, які патрапіць развесяліць публіку. Паказванне народных абрадаў у рамках «Антракта+» гэта цікавая і вартасная ініцыятыва. Дзеткі вучацца лепш размаўляць на нашай мове, засвойваюць беларускія традыцыі. Таксама і тэатральнай дзейнасцю трэба падлішаць нашы карані, каб не высыхалі беларуская культура і мова.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Мінск — Гродна. За кулісамі (ч. 2)

Пасля марознай ночы, на наступную раніцу, калі праходжу праз сонечны цэнтр Мінска, кідаецца мне ў вочы рэкламны шчыт XXII Міжнароднага кніжнага кірмашу і сімпозіума пісьменнікаў «Писатели и время». Днём пазней я чытаю, гледзячы праз акенца кіёска побач з загалоўкам газеты «Беларусь сегодня» паведамленне па-руску Аляксандра Лукашэнкі да ўдзельнікаў кірмашу і сімпозіума. Паведамленне апублікаванае пад назвай «Книги учат жизни». Прэзідэнт напісаў: «Не одно поколение белорусов воспитано на книгах, герои которых становились примером для подражания, помогали формировать характер, учили верности Родине, умению находить выход из непростых жизненных ситуаций. Для нас исключительно важно, чтобы вдумчивое, чуткое слово литераторов и впредь служило утверждению принципов нравственности...». Чытаючы гэтыя словы, я не мог забыцца пра наведанне ў позні пасляпаўднёвы час у папярэдні дзень кнігарні «ЛогвінаЎ». Яна размешчана ў самым цэнтры Мінска, сцяна ў сцяну з незалежнай галерэяй «Ў», дзе якраз паказвалі фатаграфіі Міхала Іваноўскага на выставе «Як далёка ад людзей». Ягоныя працы гэта фатаграфічны запіс месцаў, якімі ў 1945 годзе ўцякалі з лагера для ваеннапалонных у Калузе праз Расію, Беларусь і Літву дадому ў Вроцлаве ягоны дзед з братам. Яны прайшлі 2 тысячы 200 кіламетраў.

10 лютага ў мінскім Вярхоўным судзе праходзіла слуханне справы па апеляцыі датычнай будучыні выдавецтва «Логвінаў». Заснавана яно ў 2000 годзе. Дасюль было выдадзена ім каля тысячы публікацый. Гэта практычна адзінае выдавецтва, у якім кнігі могуць выдаваць незалежныя творцы, з якімі змагалася цэнзура, а кнігарня «ЛогвінаЎ» (існуе з 2009 года) з'яўляецца адным з нешматлікіх месцаў у Мінску, дзе прадаюцца кнігі, якія па палітычных прычынах не допушчаныя да продажу ў іншых месцах. Таксама можна купіць кнігі польскіх аўтараў у беларускіх перакладах. Арганізуюцца тут аўтарскія сустрэчы. Да гэтага часу выдавецтва рэгулярна ўдзельнічала ў прэстыжных міжнародных кніжных кірмашах у Варшаве, Франкфурце і Лейпцыгу. 9 студзеня Эканамічны суд Мінска пастанавіў аштрафаваць гэтае прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства на 30 базавых велічынь (5,4 млн. рублёў) за ажыццяўленне незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, а таксама канфіскаваць прыбыткі, атрыманыя юрыдычнай асобай у студзені-снежні 2014 г. у памеры большым за 960 мільёнаў рублёў (гэта каля 250 тысяч злотых). У кастрычніку 2013 г. выдавецтва было пазбаўлена ліцэнзіі з-за выпуску альбома «Прэс-фота Беларусі-2011». У ім былі змешчаны фотаздымкі, якія паказвалі сцэны з паўсядзённага жыцця простых грамадзян Беларусі, але экспертамі КДБ альбом быў палічаны прапагандай экстрэмізму.

У кнігарні сустракаю яе дырэктара Яўгена Ціханава, неспакойнага за будучыню:

— Пакуль што кнігарня і выдавецтва працягваюць пашыраць свой бізнес. Перад Вярхоўным судом абскардзілі мы рашэнне і спрабавалі паменшыць памер штрафу. Суд адмовіўся і яго рашэнне неадкладна ўступіла ў сілу. Такім чынам, мы маем ад сёння, то-бок, ад 10 лютага, два тыдні, каб заплаціць. Мы не ведаем, што будзе. Працягваецца грамадская кампанія па зборы грошай на выплату штрафу. Людзі нават асабіста прыносяць грошы ў кнігарню. У нашым выдавецкім партфелі ляжыць шмат перакладаў, у тым ліку з украінскай мовы, і многа загалоўкаў беларускай літаратуры.

### Вызваліць кнігу!

Яўген нагадвае, што са студзеня мінулага года ў Беларусі кожны кнігагандлёвец абавязаны прайсці працэдуру дзяржаўнай рэгістрацыі. Перашкоды, якія стаўяць чыноўнікі, з'яўляюцца свайго роду цэнзурай. На працягу года кнігарню «ЛогвінаЎ» спрабавалі зарэгістраваць шэсць разоў. Кожны раз атрымлівала адмову без сур'ёзных прычын.

— Калі «Логвінаў» не збярэ грошай і не заплаціць штрафу, прыйдзецца аб'явіць аб банкруцтве і, як кожная фірма, так і наша ў гэтым выпадку будзе ліквідавана. Калі сродкі не будуць дастатковымі, не пагасяць усяго штрафу, пачнецца расследаванне і будуць шукаць вінаватых. Калі палічаць, што вінаваты ўладальнік Ігар Логвінаў, пагражае яму нават два гады пазбаўлення волі і канфіскацыя яго асабістай маёмасці. Грошы на штраф можна пералічваць на рахунак указаны на сайце savelohvinau.club. Можна таксама прыняць удзел у акцыі салідарнасці «Вызваліць кнігу», то-бок, сфатаграфавацца з кнігай, якую зараз чытаеце, памясціць яе #SaveLohvinau, запрасіць яшчэ дзве асобы да ўдзелу ў акцыі і ўвесці гэта ў свой профіль на фейсбуку.

У кнігарні на бачных месцах кідаецца мне ў вочы нядаўна выдадзеная і ўжо бестселер «Мова» Віктара Марціновіча, у рускай версіі, таму што тры тыражы кнігі па-беларуску ўжо разышліся. Акрамя таго, свежыя пераклады кніг з чэшскай на беларускую мову Вацлава Гавэла, з польскай Паўла Хюле, вершы Віславы Шымборскай ці біяграфія Чэслава Мілаша аўтарства Анджэя Франашка.

Пасля 39-гадзіннага знаходжання ў Мінску вяртаюся ў Беласток. На фейсбуку чытаю запіскі асоб салідарных з пакаранымі выдавецтвам і кнігарняй. Сярод тых, хто далучыўся да акцыі «Вызваліць кнігу!» трапляю на польскіх беларусаў. Чытаю словы Яўгена Вапы, старшыні Беларускага саюза ў РП, старшыні Управы Радыё Рацыя і галоўнага рэдактара «Нівы», які пераняў эстафету ад Алеся Бяляцкага і напісаў каля свайго здымка з кнігай: «Жалезная логіка кожнай дыктатуры — знішчаць свабодную думку і месцы яе існавання. Незалежная беларуская думка сканцэнтраваная ў кнігарні «ЛогвінаЎ» — галаўны боль чыноўнікаў. Няхай ім будзе сорамна. Але калі ніколі не купілі аніякай кніжкі ў любой кнігарні — тады прабач ім Божа».

### Новая мадэль супрацоўніцтва

Аўторак, 10 лютага, аказаўся багатым у шэраг творчых сустрэч пад знакам тэатральнага супрацоўніцтва. Дырэктарка Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку Агнешка Карыткоўская-Мазур прапануе двум вядучым мінскім тэатрам: Рэспубліканскаму тэатру беларускай драматургіі і Нацыянальнаму акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы ўдзел у міжнародным доўгатэрміновым праекце (да 2016 г.). Прадбачваюцца рэжысёрска-драматургічна-акцёрскія семінары, вынікам якіх стане конкурс сучасных п'ес і пастаноўка двух міжнародных сумесных спектакляў беластоцкага драмтэатра з тэатрамі Беларусі, Малдовы, Румыніі і Сербіі. У Беларусі будуць праведзены тыднёвыя семінары. У іх прымуць удзел трох рэжысёраў з Польшчы, па адным драматургу з Беларусі, Польшчы і Сербіі, па трох акцёраў з Польшчы і Сербіі, шэсць акцёраў з Беларусі. Паказы, якія закончаць праект у рамках конкурсу, будуць праводзіцца ў Беларусі і Малдове, ну і ў Польшчы. Дырэктарка праект найперш прадставіла ў пасольстве Польшчы ў Мінску. Суправаджалі яе дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Падляшскай маршалкоўскай управы Анатоль Вап і старшыня Фонду «Віла Сакрата» Павал Грэсь, між іншым арганізатар фестывалю «Басовішча». Пры адсутнасці амбасадара Лешка Шарэпкі (учарашнім познім вечарам папрасілі яго ў Варшаву) прапанову слухае Міхал Хаброс, ад нядаўняга часу І сакратар мінскай амбасады РП і заадно дырэктар яе палітычна-эканамічнага аддзялення, былы дырэктар палітычна-эканамічнага аддзялення польскай амбасады ў Астане (Казахстан). Дырэктарка беластоцкага тэатра пераконвае:

— Мы хочам, каб дзякуючы гэтаму праекту распрацаваць і ўмацаваць новую мадэль шматгадовай практыкі міжнароднага супрацоўніцтва, якой завяршэннем будзе стварэнне новых сучасных драм і спектакляў, узніклых у выніку практычнага абмену ідэямі, практыкай і вопытам. Праект павінен быць працяглым шырока распаўсюджанай у наш час «фестывалізацыі культуры», у якой няма месца для сапраўдных, доўгачасовых працэсаў, і дзе творчая энергія пачынаецца ў месцах, дзе канчаюцца праекты і гранты.

Прысутная ў час усіх наступных мінскіх сустрэч Альжбета Шчапанская-Дамброўская, адказная ў пасольстве за праекты публічнай і культурнай дыпламатыі, не хавае:

— Нягледзячы на ўскладненні ва Украіне і Расіі, мы хочам, каб палітыка не мяшала ў нашых польска-беларускіх адносінах.

Агнешка Карыткоўская-Мазур:

— Беларусь з'яўляецца для нас натуральным партнёрам, не толькі з-за свайго геаграфічнага становішча. Мы абяцаем выезд трох нашых спектакляў у Беларусь у рамках праекта «Іншы-Чужы-Свой». Цяперашні візіт мае служыць двухбаковаму абмену.

Міхал Хаброс, не хаваючы захаплення беластоцкім праектам, дадае:

— У нас шмат ідэй у сферы культурнага супрацоўніцтва, а мала сродкаў. Я рады, што і Малдова далучыцца да праекта.

### Візавыя прапановы

Анатоль Вап:

— Пачынаем супрацоўніцтва з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй, а затым з Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатрам оперы і балета. Спачатку з філармоніяй, таму што гэта танней. Мы хацелі б сістэматычна абменьвацца дырыжорамі і салістамі. У планах — узаемныя візіты сімфанічных аркестраў мінскай і падляшскай філармоній. Наш Падляшскі музей зацікаўлены паказаць у Беларусі некалькі выстаў, у тым ліку прысвечаны ручніку з ваколіц Бельска-Падляшскага. Таксама хоча супрацоўнічаць Гістарычны музей у Беластоку. Мы хацелі б, каб наш скансэн паказаў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі хромалітаграфіі.

Павал Грэсь выкарыстоўвае добры клімат размовы і прапануе, каб бясплатныя візы ў Польшчу маглі атрымліваць грамадзяне Беларусі — удзельнікі «Басовішча», таксама тыя, якім больш за 25 гадоў. Анатоль Вап прапануе ахапіць гэтай ідэяй таксама беларускіх удзельнікаў фэсту «Up To Date» («Да сённяшняга дня»), і нават заклікае да візавай дапамогі беларускім рэканструкцыйным групам. Аднак Міхал Хаброс у справе прыезду на «Басовішча» і «Up To Date» не выказвае ніякіх прамых абяцанняў. Тым не менш, запэўнівае:

— Перадам прапанову ў наш консульскі аддзел. Думаю, што з гэтым не будзе сур'ёзных праблем.

Пры нагодзе адзначае:

— З канца студзеня абавязвае еўрасаюзная біяметрычная сістэма выдачы віз. Неабходнай будзе асабістая яўка пры падачы заяўкі на візу. У наступны раз яўка не будзе патрэбнай. Просім заранёў падаваць заявы на візы, па меншай меры на месяц раней. На жаль, мы яшчэ не можам разлічваць на ўпарадкаваную працэдуру абслугоўвання візавага цэнтра.

Пакідаем шматпавярховы дом у адным з завулкаў у цэнтры Мінска, дзе — акрамя розных фірм — на адным з паверхаў знаходзіцца пасольства РП. Да гэтага часу няма рашэння, калі Польшча дачакаецца пастаяннай сапраўднай сядзібы пасольства. Міхал Хаброс, у якога я пра гэта спытаўся, удумліваецца: «Праз год ці два, мабыць, тры...».

(працяг будзе)

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



Дырэктар кнігарні «ЛогвінаЎ»



Будынак, у якім знаходзіцца пасольства РП у Мінску

Зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Файная дыктоўка!

Кажуць — дыктоўка страшная рэч. Аднак не для вучняў праваслаўнай школы. Беларускую дыктоўку пісала ажно тры групы, разам за паўсотні дзяцей і моладзі. Як не цікава — тут былі сімвалічныя ўзнагароды — беларускія граматы! Затое вучні ведалі, што іх удзел у дыктоўцы будзе агульнасусветнай падтрымкай для беларускай мовы. Такую дыктоўку пішуць прыхільнікі беларускай мовы. Нас прыемна здзівіла, што пасля заканчэння дыктоўкі частка конкурснікаў адчувала недахоп.



Мілаш Тэлешэўскі




Наймалодшыя пісалі сачыненне «Памочніцы», а вучні старэйшых класаў і гімназісты — тэкст «Роднае слова» Аляксандра Крыніцкага.

А вось прозвішчы пераможцаў: Сярод трэцякласнікаў перамагла **Алеся Буткевіч**. Алеся напісала дыктоўку беспамылкова. На другім месцы апынуўся **Іванка Карсунскі**, трэцяй была **Юстына Бакуменка.**

Сярод старэйшых вучняў максімальную колькасць балаў набралі **Вераніка Кардзюкевіч, Клаўдзія Галінская, Магда Гарустовіч**, на другім месцы апынулася **Габрыся Торка,** на трэцім — **Аляксандра Салавянюк** і **Зузя Кардзюкевіч.** Сярод гімназістаў першай была **Дамініка Благушэўская**, другое месца ўзяў **Матвей Навумюк,** а два трэція месцы прыпалі **Агнешцы ЗдаНоўскай і Аляксандру Семенюку.**

Прыгожым дапаўненнем дыктоўкі быў расказ журналіста Зміцера Косціна. Журналіст Радыё Рацыя не толькі павёў дыктоўку, ён распавёў пра ідэю нацыянальнай дыктоўкі. Пра ўсё гэта можаце прачытаць у фотарэпартажы на 12 старонцы «Нівы».

ЗОРКА



Злева: Віялета Нікіцюк-Пэркоўская і Юліта Сушч — настаўніцы

*Тамаш ФЕДАРЧУК*
*ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

## А. і А.

*У адной школе вучыўся такі хлопец, якога звалі Алесь. Ён вельмі кахаў Алесю. Яна вучылася ў малодшым класе. Аднаго дня ён падышоў да яе і сказаў, што ён яе кахае. Дзяўчынка надумала, што хлопец робіць сабе жарты. Яна яму не паверыла. Ён стаў нешчаслівым. Але ён не хацеў так гэтага пакінуць. Ён мог для яе зрабіць усё. Наступнага дня ў тэлебачанні журналіст прачытаў пісьмо, якое Алесь напісаў Алесі. Кожнае слова напісанае было проста з сэрца. Алеся тое пачула і тады ўсё зразумела.*

*Зараз яны святкуюць яцігоддзе з дня шлюбу.*

# УВАГА КОНКУРС! № 9-15

## Загадкі з роднай хаткі

Крэсляць неба
бліскавіцы.
За пагоркам
гром раве.
Трэба спаць,
але не спіцца
нават соннай
сон-.....
(Н. А. Старажава)

Брат сястру
пабачыць рад,
але строгі
ў іх расклад:
прачынаецца сястра —
брату спаць ісці пара.
(С.... і м....)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 8 сакавіка 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на на загадкі № 5-15: вавёрка, карова.
Узнагароду, кампакт-дыск з беларускай фальклорнай музыкай, выйгралі Агнешка Буслоўская з Гайнаўкі, Вераніка Кардзюкевіч з Беластока і Кася Харкевіч з Міхалова.
Віншуем!

(Вынікі жараб'ёўкі вы можаце пабачыць ужо ў сераду на фейсбуку на сайце Сустрэч «Зоркі»).

Караліна КАРАВАЙ, Гімназія ў Нараўцы

# Максім і Сашка (ч. 4)

Максім адразу зразумеў, што гэта за чалавек. Унутры адчуў, што ўсё ў ім крычыць. Бачачы ўмаляючыя вочы каня, балела яму сэрца. Мужчына адыходзіў з канём да дарогі, аж зніклі з вачэй. Максім не мог нічога зрабіць. Пачуўшы апошняе іржанне сябра, выцер рукавом слязу, якая хутка скацілася па яго шчацэ.

Максім вярнуўся дахаты. Не мог пазбіраць думак. З нерваў пабіў тры шклянкі і талерку, але эмоцыі не аслаблі.

Прыйшла ноч. Сашка стаяў у цёмным, лясным хляве прывязаны цяжкім ланцугом, са спутанымі нагамі. Страціў свабоду і сябра, з якім быў так коратка. Раптам адчыніліся дзверы хлява, а потым хтосьці зняў цяжкі ланцуг і путы. Спалоханы конь гучна заіржаў, з надзеяй, што нехта прыйдзе на ратунак.

— Ціха Сашка! Гэта я, Максім, не пазнаў ты мяне?

Конь паставіў вушы і з энтузіязмам выйшаў на панадворак. Сабака гаспадара пачаў брахаць і ў той момант уладальнік каня выбег з хаты і закрычаў. У цемры ўбачыў постаць свайго каня. Не думаўшы больш, з яшчэ большым гневам хапіў рыдлёўку і пабег у бок жывёлы. Максім стукнуў Сашку, каб той уцякаў, аднак конь стаяў на месцы як укапаны. Гаспадар хацеў кінуцца на жывёлу, калі сталася штосьці, чаго ніхто не спадзяваўся. Конь заіржаў і стаў на задніх нагах, заслоніўшы цэлам свайго збаўцу. Конь, доўгі час падпарадкаваны толькі свайму кату, цяпер стаў у абарону свайго апекуна, які адарыў яго любоўю і ласкай. Уладальнік упусціў рыдлёўку і ўпаў на зямлю.

Максім з канём уцяклі не аглядаючыся за сябе.

Пасля гэтага яны не маглі застацца ў вёсцы. Максім сядлаў каня, а той вёў сябе так, як бы ўсё разумеў. Максім баяўся гэтай хвіліны. Конь, можа, ніколі не меў вершніка на хрыбце, а ён не сядзеў на кані каля трыццаці гадоў. Мужчына нахіліўся і пяшчотна прашаптаў:

— Уцякаем. Нічога добрага мы тут не знойдзем. Мусіш мяне панесці, я сам не паспею. Павер мне. Сашка, бяжы на свабоду.

Зразумеў ужо сэнс заканчэння сваёй кар'еры. Закончыў яе, каб зразумець, чым папраўдзе ёсць конь і коннік. Шкадаваў толькі, што зразумеў гэта так позна.

Ніхто з вёскі не сустрэў больш ані Максімкі, ані яго каня. Кружылі плёткі, што выехаў ён да далёкай сям'і, іншыя казалі, што разарвалі іх ваўкі. Толькі часам стары гаспадар расказваў пра чорта, які ноччу ўкраў яму каня. Аднак ніхто ніколі не зведаў праўды. А, можа, і не хацеў?

Мал. Олі Салавянюк

# ТРЫ ДАЧКІ

*(татарская казка)*

Жыла-была адна жанчына. Яна працавала ад рання да вечара, каб накарміць і адзець сваіх дачок. І выраслі ў яе тры дачушкі — усе прыгажуні. Хутка яны павыходзілі адна за адной замуж і пайшлі за сваімі мужамі. Прайшло некалькі гадоў. Цяжка захварэла маці. Яна паслала да дачок рыжую вавёрку.

— Скажы ім, вавёрка, каб яны наведалі мяне! Я паміраць буду!

— Прыбегла вавёрка да найстарэйшай дачкі:

— Ой! — уздыхнула найстарэйшая дачка. — Ой, я б ахвотна пайшла, але ў мяне шмат работы. Трэба пачысціць два тазы.

— Пачысціць два тазы!? — усхвалялася вавёрка. — Тады таўчыся з гэтымі тазамі ўсё жыццё!

Тазы скаціліся з паліцы, абгарнулі старэйшую дачку і яна стала… чарапахай.

Пабегла вавёрка да сярэдняй сястры.

— Ой, — кажа ёй другая дачка, — я б ахвотна наведала маці, але ў мяне процьма работы. Трэба на кірмаш палатно саткаць.

— Тады будзеш ткаць усё жыццё, — адказала ёй вавёрка. І сярэдняя дачка абярнулася ў павука.

А наймалодшая дачушка мясіла цеста. Яна не сказала ні слова, нават рук не абцерла, з ходу паляцела да роднай мамкі.

— Будзеш прыносіць заўсёды людзям радасць і асалоду, — сказала вавёрка. — Людзі будуць любіць цябе, тваіх дзяцей, унукаў і праўнукаў.

І праўда, наймалодшая дачушка жыла шмат гадоў і ўсе яе любілі. А калі прыйшоў час паміраць, яна абярнулася ў залатую пчолку. Усё лета яна збірае мёд, таму яе лапкі заўсёды ў салодкім цэсце. Зімой яна спіць у цёплым вуллі, а калі прачнецца, есць толькі мёд і цукар.

*(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)*

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку а 5:

Кіт, бант, барада, карона, карова, шаман, пі, кран, фон. Кот, каша, баран, паром, ровар, банан, Ада, на, по, блін.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Вольга Кардаш**, **Карнелія Порац**, **Міхал Талалюскі** з Нарвы, **Габрыеля Карбоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Дамініка Казбарук** з Міхалова, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Якуб Сяроцкі**, **Агнешка Здаюўская**, **Тамаш Мусюк**, **Аляксандра Лашэўская** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!

Skóra
Wzrost
Stół
Świat
Tablica
Dziekan
Kok
Co?
Asceta
Okno
Żyto
Tara
Och!
Gest
Sto
Dar
Dyktando
Jer
Tata
Ranga
Stan w USA

# Вершы Віктара Шведа

## Шкадую, што дурная

Сварацца дзеці ў хаце.
Дзяцей пытае маці:
— Што сталася, скажыце?
— Дурной назваў мяне Віця.

— Перапрасі малую,
Скажы ёй, што шкадуеш.
— Цябе перапрашаю,
Шкадую, што дурная.

## Цікавыя адказы

Урок Божага закона.
Запыталі Лявона:
— Што рабіць нам трэба,
Каб пайсці да неба?

— Трэба ў нашым веку
Быць добрым чалавекам.
Алесь сказаў: — Паверце,
Трэба раней памерці.

## Карміць забараняецца

Дачушка маму турбуе:
— Купі мне малпку малую.
— Перастань марудзіць,
Чым карміць яе будзеш?

Сказала дачушка Дарка:
— Купі яе ў заапарку.
Там надпісы з'яўляюцца:
"Карміць забараняецца!"

## Мама купае блізнят

У мамы працы багата,
Яна купае блізнятак.
Выкупала Івана,
І замест памыць Сцяпана

Івана схапіла зноўку
Памыла яго лоўка.
І непамыты Сцяпан
Кажа: — Які ж балаган!

№ 09 [01-03-2015]

# Шаптух Воранаў






— Пытацца ў мяне, ці веру я ў шаптух і іх сілу, відаць, было б залішнім, — кажа Віталь Воранаў. — Я зведаў сілу гэтай штукі на сабе, і то не раз. Але стаўленне да шаптух сярод людзей бывае рознае. У Польшчы і чым далей на захад ад Віслы пра гэтае мастацтва амаль ніхто нічога не ведае. Хрысціянства зрабіла ўсё магчымае, каб паганскія па сваім паходжанні веды адправіць у нябыт або адаптаваць на патрэбы сваіх догмаў. Таму сёння большасць шаптух, апрача даўнейшых замоваў, выкарыстоўвае таксама малітвы „Ойча наш", „Вітай, Марыя" ці „Веру ў Бога Айца Усемагутнага", а іхныя хаты звычайна абвешаныя іконамі. Самі шаптухі часта гавораць пра тое, што вера ў Бога — асноўная перадумова аздараўлення і што яны з'яўляюцца толькі пасрэднікамі ў гэтым працэсе: „Не я доктар, ты доктар...". Нягледзячы на гэта, стаўленне да шаптунства як сярод праваслаўных, так і каталіцкіх іерархаў даволі адмоўнае. Адначасна я ведаю, што вера ў сілу народнай медыцыны не перашкаджала маёй бабулі быць шчырай верніцай-каталічкай. Беларусы — адзін з няшмогіх народаў, якія змаглі сінтэзаваць пашану да хрысціянства з верай у сілу паганскіх па сваёй сутнасці абрадаў. Некаторыя вернікі хрысціянскіх канфесій лічаць шаптунства д'ябальствам, чорнай магіяй і адыходам ад веры. Не жадаючы паглыбляцца ў чыста тэалагічныя аспекты гэтай праблемы, скажу толькі, што хрысціянству 2000 гадоў, сучаснай медыцыне крыху больш за 100, а беларусам, па заявах навукоўцаў-генетыкаў, прыкладна 8000 гадоў, і ўвесь гэты час ім трэба было неяк ратавацца ад рознае немачы. Адсюль вонкава знахарскія рытуалы часцяком нагадваюць магічныя заклінанні, але ў іх аснове заўсёды закладзеныя практычныя шматгадовыя назіранні...

Зборнік 18 тэкстаў «Шэптам» абапіраецца на матэрыялы, сабраныя Віталем Воранавым падчас экспедыцыі па беларуска-польскім памежжы.

— Гэтая кніжка была са мной, так бы мовіць, з самага пачатку. Кожны раз, калі ў хату заходзіла нейкая цётка і, убачыўшы мяне ў калысцы, забывалася тры разы сплюнуць, як наказвае традыцыя, або сказаць пра мяне нешта адмоўнае, а замест гэтага пачынала абдорваць мяне непатрэбнымі кампліментамі, я тут жа пачынаў нясцерпна галасіць і пераставаў есці. Пасля гэтага мая бабуля заўжды ішла па знаёмую бабу, каб тая мяне загаварыла. Шаптуха прыходзіла, запальвала зёлкі, па хаце расцягвалася смуга пахучага дыму, і тады яна пачынала прыгаворваць: «Зоры-зарніцы, гасподнія памачніцы, прашу вас ранніх, позніх, вячэрніх, дняўных пры цёмных кусточках, пры зялёных лісточках, каб Віталю не калола, не парола, каб яму пілося, і елася, і спаць хацелася». Пасля такіх замоваў, або так званага выгрызання хваробы зубамі, я пераставаў плакаць і зноў пачынаў есці, быццам нічога гэтага і не было.

Калі Віталь запланаваў кнігу, марыў трапіць у рэгіён, дзе веды пра знахарства самыя жывыя, і не дзіва, што гэткім рэгіёнам аказалася Падляшша-Палессе.

— Задума пачала ажыццяўляцца пасля майго вяртання з Амерыкі, дзе я правёў апошнія два гады жыцця, і пасля маёй чарговай паездкі ў Беласток. Менавіта ў Беластоку я паглыбіўся ў несустраканую ўжо доўгі час атмасферу народных забабонаў. Знаёмая юрыстка апавядала як у судзе, што адбываўся ў адным мястэчку пад Беластокам, адна абураная жанчына крычала ў бок сваёй крыўдзіцелькі: „Ты цяжарная, таму не хлусі, бо дзіця тваё будзе такое ж хлуслівае, як і ты".

Зацікаўляе? Тэма, гераіні, сам аўтар. Таму прэзентацыя кнігі „Шэптам" не адбылася ў беластоцкай кавярні „Mała Czarna", бо з-за аграмаднага зацікаўлення да кнігі з боку беластачан прэзентацыю перанеслі ў галерэю Слендзінскіх, што побач кавярні. Пра таемныя сувязі Віталя з цікавымі бабкамі прыйшла людзей прынамсі сотня. Летась пісьменнік, заінспіраваны Магдалінай Петрук, задумаў кнігу „Шэптам", атрымаў стыпендыю прэзідэнта горада Беластока і некалькі месяцаў правёў на Падляшшы і Палессі, збіраючы матэрыял для кнігі як звычайны мужчына, якога турбуюць нейкія нямогласці, хаця падрыхтаваўся да збораў таксама навукова. Чаму? Бо вядунні і не думалі размаўляць з ім як з падазроным чалавекам, які піша. Сам чарадзей...

Віталь Воранаў, народжаны 8 сакавіка 1983 г. у Мінску, беларускі перакладчык, літаратар, выдавец. Вучыўся ў школе № 2 у Глыбокім. У 1996 г. разам з бацькамі эміграваў у Польшчу. Атрымаў сярэднюю адукацыю і міжнародны дыплом у Першым прыватным ліцэі ў Познані. Выпускнік універсітэта імя Адама Міцкевіча ў Познані і ўніверсітэта Масарыка ў Брне. Сузаснавальнік і старшыня Беларускага культурна-асветніцкага цэнтра ў Познані. Заснавальнік выдавецтва «Белы крумкач». Адзін з рэдактараў літаратурнага часопіса «Паэтычныя сшыткі» (Гнезна). Перакладае з англійскай, чэшскай і польскай моў. Пераклаў на беларускую «У чаканні Гадо» Сэмюэла Бэкета, «Віня-Пых» Алана Мілна. Таксама піша прозу, вершы і п'есы. У 2013 годзе выйшаў зборнік яго апавяданняў «Wielkie Księstwo Białoruś» («Вялікае княства Беларусь»). Займаецца яшчэ і жывапісам.

Раней прэзентацыя кнігі на польскай («Szeptem») і на беларускай мове адбылася ў Саборы Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Выклікала вялікае зацікаўленне чытачоў і пытанні, між іншым, наконт таго, ці бабкі-шаптухі займаюцца хрысціянскім лекаваннем, народнай традыцыяй лячэння з дапамогай зёлак і замоваў-малітваў, якая існавала на Беларусі вякамі ды захавалася ў вёсках да сёння, ці іхні таемны занятак бліжэйшы к паганству.

— Першыя накіды ўсіх тэкстаў кнігі былі зробленыя менавіта на Глыбоччыне, у вёсцы Вудзела, дзе я адпачываў пасля экспедыцый на Падляшша і Палессе і дзе займаўся рамантаваннем дзедавай хаты. Улетку я вырашыў паставіць эксперымент наконт магчымасці пераўтварэння хаты дзяцінства ў творчую сядзібу, месца, дзе можна было б праводзіць час на пісанні кніжак, — плануе аўтар, а на пытанне, ці будзе працяг такой прыцягальнай тэмы, адказвае, што не хацеў бы быць аўтарам адной кнігі.

— Заадно хачу падкрэсліць, што гэтая кніга, збор апавяданняў — мастацкая літаратура ці, па-англійску кажучы, фікцыя. Серыя падарожжаў па падляшскіх і палескіх вёсках была мною здзейсненая выключна для натхнення і лепшага спазнання тэмы вядзьмарства, аднак большасць матэрыялу не мае этнаграфічна-дакументальнага характару. Чытачоў вельмі цікавіць тэма, падобна было і ў час збору матэрыялу. Іншая адукаваная жанчына на поўным сур'ёзе пераконвала мяне, што былая жонка ейнага мужа сурочвае дзяцей з яго першага шлюбу. Калі муж забірае дзяцей да сябе і яны едуць некуды разам, то ўсё заўжды ідзе не так. А апошнім разам з-за гэтага чароўнага ўздзеяння ў іх нават здарылася аварыя. І калі я прызнаўся ёй, што цікаўлюся гэтай тэмай, яна тут жа пачала выпытваць адрасы знаёмых мне шаптух і ў прынцыпе была гатовая зараз жа сесці ў машыну і ехаць здымаць урокі. Нейзабаве пасля гэтых дзвюх гісторый я сустрэў загадчыка аднаго з мясцовых дамоў культуры, які быў цалкам упэўнены ў тым, што на музейных кроснах ў ягонай установе наведзены подзіў і што падчас працы кросны выкідваюць розныя штукі, каб сапсаваць цяжкі і карпатлівы працэс ткання. Па словах загадчыка, уначы кросны грукочуць і нават самавольна перамяшчаюцца... Карціну дапоўніла касірка на запраўцы, якая адмовілася прымаць банкаўскую картку з рук у рукі і пачала настойваць на тым, каб я тую картку паклаў на стол... Былі прыгоды і з пагранічнікамі, якія, зацікаўленыя тым, чаго я еду ў Беларусь, адразу пачалі са мной раіцца ў справах лекавання народнай медыцынай...

Але пакуль не звяртайцеся ў гэтых таемных справах да шаптуна Віталя Воранава, які працуе за-МОВАЙ.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Рэйтынг сярод нармальных сяброў


а. Лукаш Лаўрашук

У рэйтынг ініцыятыў намінаваных было дванаццаць няўрадавых арганізацый. У склад камісіі па намінацыі найлепшых уваходзілі дзеячы аб'яднанняў і фондаў ды асобы, якія супрацоўнічаюць з ініцыятывай «Нармальны Беласток». У Першым рэйтынгу ініцыятыў за талерантнасць, разнастайнасць і шматкультурнасць «Разнароднасць-2014» узнагароджаны былі пяць арганізацый за асаблівы ўнёсак у выхаванне ў духу талерантнасці і шматкультурнасці на тэрыторыі Падляшша — кафлямі з вывай сэрца і памятнымі адмысловымі граматамі. Грамадская ініцыятыва, якая называецца «Нармальны Беласток», аб'ядноўвае людзей, якія працуюць дзеля грамадскага дыялогу.

Увечары 18 лютага «нармальсы», іх прыхільнікі і намінанты ў рэйтынгу сустрэліся ў клубе «Змена клімату» па вуліцы Варшаўскай у Беластоку. Дзесяць экспертаў вылучылі пяць ініцыятыў, якія заслугоўваюць узнагароду, і адну, якая атрымала ганаровае вылучэнне. Астатняе пайшло ў Сувалкі ў рукі трох святароў: каталіцкага ксяндза Леха Лубы, праваслаўнага бацюшкі Лукаша Лаўрашука і лютаранскага пастара Давіда Банаха за аўтэнтычны экуменізм, — як адзначыла Анна Мяжынская з «Нармальнага Беластока» і растлумачыла ідэю «Разнароднасці»:

— Мы з'яўляемся людзьмі, якія працуюць дзеля таго, каб Беласток быў нармальным горадам, значыць, адкрытым, талерантным і разнастайным. Таму хочам прасоўваць усе ініцыятывы на гэты конт. Іх шмат, а мы хочам, каб усе пачулі пра іх, і каб былі бачныя канкрэтныя людзі, якія за гэтым стаяць.

— Гэта звычайна ў нас, дзе такія невялікія абшчыны — евангеліцкі прыход ці праваслаўны ў 80 парафіян, — сказаў айцец Давід Банах, пастар лютаранскай парафіі ў Сувалках. — Гэта справа, якая матывуе нас узаемна, каб не здавацца, не прападаць, не быць кімсьці непрыкметным, але гаварыць гучна хто мы ёсць, ганарыцца гэтым, і, такім чынам, прыхіляць да сябе шмат цудоўных людзей, каб працаваць разам, каб клапаціцца нашай спадчынай.

У рэйтынгу ініцыятыў па талерантнасці, разнастайнасці і шматкультурнасці ў рэгіёне Падляшша «Разнароднасць-2014» перамаглі: Асацыяцыя па культуры і дыялогу 9/12 — за адукацыйную праграму па барацьбе з дыскрымінацыяй «Разнастайнасць-Падай далей-2014»; Фонд «Дыялог» — за праект «Мульты-сток»; Майстэрня кіно, гуку і фатаграфіі ў Міхалове — за тэматычныя сустрэчы этнічных груп, насяляючых рэгіён Падляшша; Фонд «Віла Сакрата» ў Крынках — за праект «Вялікая сінагога. Рэанімацыя»; Асацыяцыя па культурнай асвеце «Відок» — за паслядоўную працу з дзецьмі і моладдзю з Чачні і асабліва за тэатральны праект «Экспарт-Імпарт».

Намінанты: Фонд «Мясцовы час» з Ломжы — за ўнікальную галерэю скульптур, прысвечаную шматкультурнасці Ломжы; гурт «Чарамшына» — за мастацкую творчасць, якая спалучае культуры Падляшша; Фонд «Змена» — за ініцыятыву «1000 свечак на магілах у Крынках»; асацыяцыя «Да Добрай Надзеі» — за барацьбу супраць сацыяльнай ізаляцыі; Пачатковая школа № 12 у Беластоку — за рэалізацыю праекта «Фестываль культур»; Фонд «Татарскае культурнае грамадства» — за развіццё і распаўсюджванне культуры польскіх татар.

(лук)

# Калі Ляўкова набірала разгону



**Размова з Марыяй і Станіславам Аляксейчукамі з Беластока.**

— Калі я прыйшоў на будову, — кажа спадар Станіслаў, — то ўжо першы этап завяршаўся. А калі будаваўся другі цэх, то я быў з пачатку да канца. Я працаваў у „Прамыслоўцы", якая ўзводзіла тую цагельню. І, бадай, у 1967 годзе трапіў я ў Ляўкова.

**— А ці Вам вядома, чаму спярша быў пабудаваны такі „малы" цэх, а пасля ўжо той „вялікі"?**

— Не ведаю; магчыма, што такія былі фінансавыя магчымасці, мо спярша не было дастаткова сродкаў на вялікую цагельню. Але другі цэх пачаўся „з маршу", яшчэ першы цэх набіраў разбег, а мы пачалі другі этап. Мабыць, будова і была спланавана двухэтапна; так часта праводзяцца інвестыцыі.

**— Ці ў той час, калі Вы пачыналі працу, была ўжо праведзена ў Ляўкова чыгуначная ветка?**

— Менавіта тады тую лінію пракладалі і я будаваў тамашняе лакаматыўкавае дэпо. А ўжо насыпы і пракладку пуцей выконвала спецыялізаваная фірма. Ветку клалі паралельна з будовай другога, буйнейшага цэха.

**— Якія людзі працавалі пры пабудове. Вы былі спецыялістам, а якую долю работы выконвалі мясцовыя людзі?**

— Асноўную работу выконвалі менавіта яны. Пасля многія з іх прайшлі абучэнне і сталі на працу ў прадукцыі. Працавала там шмат мясцовых людзей. Мелі яны свае гаспадаркі, а на заводзе даараблялі. І яны складалі персанальны касцяк будовы. Праўда, спецыялісты былі звонку. А яшчэ дадам, што працавалі там таксама вязні — быў там заснаваны спецыяльны асяродак.

**— Адкуль, з якой турмы яны былі?**

— З Беластока.

**— А дзе яны кватараваліся?**

— Мы спярша пабудавалі два невялікія двухпавярховыя жыллёвыя блокі для працаўнікоў. Яшчэ той цэх не ўступіў у поўную сілу і кватэры не былі заняты. Працавалі там пакуль мясцовыя людзі і таму ў тых блоках кватаравалі вязняў.

**— А чым больш канкрэтна займаліся тыя мясцовыя людзі на будове?**

— Быў у мяне такі спецыяліст з Новага Ляўкова, Аляксандр Харкевіч, выдатны цясляр. Быў яшчэ Барэчка — яго жонка Галя вяла вясковы клуб. Фундаменты залівалі мясцовыя людзі. Ну, скажам, былі там талковыя людзі, якія адказна выконвалі шалёўкі. Знайшоўся таксама і арматуршчык, Панькоўскі з Гарадзіска каля Нараўкі. Ваня Саевіч таксама працаваў арматуршчыкам. А калі ўжо трэба было стаўляць слупы, бо канструкцыя ўсяго цэха была на слупах, накрытых апорнымі бэлькамі, тады мы бралі брыгаду спецыялістаў з Беластока.

**— А як мясцовыя людзі ставіліся да работы?**

— Людзі як людзі. Адны шчыруюць больш, іншыя менш. А ў іх былі гаспадаркі і яны не маглі занадта прыкладвацца да працы ў цагельні, бо ж яшчэ пасля чакала іх праца ў полі. Але ў прынцыпе працавалі сумленна. Ну, быў такі адзін лодар, Косця Бандарук з Ляўкова, які мне асабліва ўеўся ў нервы. Але наогул людзі працавалі сумленна.

— А Ваня Саевіч? — падказвае спадарыня Марыя.

— Ваня быў салідны.

**— Ён мог не спяшацца. То ж нават у полі, калі ўсе ўжо завяршалі палявыя работы, то Ваня тады пачынаў за тыя работы брацца. Але па характары быў гэта вельмі добры чалавек.**

— Так, ён быў вельмі добрым і салідным чалавекам. Калі да нас прыязджала нейкае начальства з Беластока, то ён заўсёды рыхтаваў цяля на іх прыём; я яго нават спецыяльна адпускаў з работы і ён ужо той прыём рыхтаваў.

Я надалей трымаю кантакт з некаторымі людзьмі з Ляўкова. Вось мой сардэчны сябра там завёў сям'ю і астаўся, Равінскі — ён з Геняй Пташынскай ажаніўся; гэта мой кум. І так будавалася Ляўкова — былі мясцовыя людзі, былі вязні, дадаткова, калі было трэба, прыязджалі спецыялісты з Беластока.

**— Тады быў такі час агульных недахопаў. Ці здараліся такія сітуацыі, калі нечага на будове бракавала, нейкага істотнага матэрыялу?**

— У той час нейкія асаблівыя недахопы не здараліся. Вядома, трэба было ўсё загадзя заказваць, бо як нешта праваронілася, то пасля мог быць салідны наганяй. Але не прыгадваю сабе, каб былі ў нас нейкія клопаты з матэрыяльным забеспячэннем будовы. Усё дастаўлялі нам тэрмінова, а нават раней. Вось тыя апорныя слупы і бэлькі даставілі намнога раней, чым было трэба. Вядома, тады такой каардынацыі не было і ўся вёска была завалена тымі канструкцыйнымі элементамі, бо на будове не было месца. Напрыклад, увесь пляц побач царквы быў завалены тымі слупамі і бэлькамі.

**— А ці здаралася такое, што нехта нейкія матэрыялы прысабечваў?**

— Вядома, тады некаторыя матэрыялы было складана атрымаць і нейкія дробныя рэчы, нейкія цвікі, то можа і выносілі.

**— Ну, а, скажам, цэмент?**

— Не прыгадваю. Але вось той згаданы Панькоўскі, спецыяліст па сталі, насіў тую арматурную сталь цераз рэчку і кудысь далей; то мы яго злавілі. Дарэчы, толькі ён мне падпаўся. А як хто некалькі цвікоў і ўзяў, то ж будова з-за гэтага не праваліласся.

**— Вы ўзводзілі толькі сам будынак цэха...**

— Гэта быў вялікі будынак, з чатырох нефаў. У асноўным корпусе была сушыльня, печ ды сам адсек фармавання вырабаў, быў таксама адсек уступнай апрацоўкі сыравіны. Быў там таксама г.зв. далоўнік, куды трапляла гліна з капальні, яна там павінна была паляжаць, тэхналагічна даспець, але не заўсёды гэты рэжым удалося ўтрымліваць, бо вытворчасць патрабавала сыравіны, а яе транспарт спачатку не надта ладзіўся. Тады было вельмі вялікае запатрабаванне на ляўкоўскія керамічныя вырабы — толькі давай! Здаралася, што трэба было ставаць на работу грузіць вагоны, не заўсёды дзеля дадатковага заробку, толькі дзеля тэрміновасці, бо за затрымку вагонаў трэба было плаціць кары.

**— Вы толькі будавалі корпус завода, а машыны хто стаўляў?**

— Гэта рабіла Гняўкова, фірма з-пад Кракава; яны стаўлялі печы.

**— Як складвалася там работа, які быў настрой?**

— Не было занадта весела, бо будавалі на гліняным грунце, і калі прыгравала сонца, то цяжка было зварухнуць грунт, а калі дождж, то чалавек граз у той гліне.

— Але бывала і весела, калі Косця Каролька, які быў загадчыкам склада, лічыў цэглу, — дадае спадарыня Марыя.

— А ён мяне да партыі хацеў запісаць, бо быў сакратаром тамашняй партарганізацыі. Ён ужо крыху выпіў і стаў мяне намаўляць да партыі. А я яму адказваю: „Косця, я б цябе першага з той партыі выкінуў за тое тваё п'янства". Ну, можа вялікага махлярства ён не рабіў, але цэглу то ён перакласіфікоўваў.

**— Людзі ж там будаваліся тады з перакласіфікаванай, у асноўным, цэглы.**

— Але агульна было весела, бо мы тады былі маладыя.

**— А дзе Вы тады жылі?**

— Прыезджыя кватараваліся па хатах ды ў офісным будынку. А я да жаніцьбы жыў у Косці Рэента.

**— У той хаце была тады і амбулаторыя.**

— Так, Аркашка Гарустовіч там працаваў; яшчэ колькі гарэлкі з ім выпілі! Пасля жаніцьбы мы жылі ў Ніны Зялінскай, у старой хаце, а калі выкватаравалі вязняў, то мы перайшлі ў блок.

**— А як Вы трапілі ў Ляўкова? — пытаю спадарыню Марыю.**

— Я раней працавала ў бібліятэцы ў Гайнаўцы, але хацела на вёску. А тады ў нашай гайнаўскай хаце кватаравалася адна дзяўчына з Новага Ляўкова, я ад яе даведалася, што Оля Харкевіч, якая тады працавала ў ляўкоўскай бібліятэцы, выходзіць у Гайнаўку замуж за майго суседа Пятра Адзіевіча. І як я пайшла на вёску, то там спаткала пана з горада, з Беластока...

— А я вельмі люблю чытаць кніжкі, — смяецца спадар Станіслаў.

— Бібліятэка была па суседску з амбулаторыяй. Спачатку я там працавала, а пасля перайшла на цагельню...

**— А чаму ж Вы ўцяклі ў цагельню?**

— Бо на цагельні больш плацілі — пайшла я на пасаду сацыяльнага работніка. Працавала я там з 1968 да 1977 года. Прыехала я ўпершыню ў Ляўкова, стаю на аўтобусным прыпынку і не ведаю куды падацца. А там стаяла Нюська, што за царквою жыла. Глянула яна на мяне і кажа: „О, яшчэ адна к... прыехала". А насупраць Садоўская з Патапчуком сварацца перад пракурорам Лімерам. Але ж бачу — ідзе такая бландзінка. Яна павяла мяне да бібліятэкі; была гэта Геня Пташынская. Кажу ёй, што адразу мяне ў Ляўкове прывіталі абзываючы к... А яна мне адказвае не браць гэтага да галавы, бо яшчэ неадназова такое пачую, таму што ўсіх прыезджых так там называюць. Бо там поўна хлопцаў у камандзіроўцы і ўсе разглядаюцца, каб такога мужа прыхапіць. І так было, бо шматлікія тамашнія дзяўчаты павыходзілі замуж за тых хлопцаў з камандзіровак: Крыся Віснеўская, Вера Дэмбоўская, Вера Сват. Помню Мар'яна Віснеўскага — на бульдозеры „Сталінец" калісь ездзіў, а цяпер з тацай у касцёле ходзіць. А і да мяне Лёня Максімюк, што пасля з Оляй Панфілюковай ажаніўся, спачатку прабаваў падчапіцца.

**— Дзякую Вам за размову і за... Ляўкова!**

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

# Баранкі сям'і Бараноўскіх

Гражына і Марыян Бараноўскія жывуць спакойна ў невялікай, утульнай хатцы па вуліцы Гродзенскай у Крынках. Яна — народжаная тут медсястра, ён — прыезджы з Саколкі пашталеён. Супольна выхоўваюць дачку Камілю.

Гражына і Марыян — актыўныя валанцёры мясцовага дома культуры, якія, між іншым, частавалі хатнімі галушкамі і капустай гасцей і ўдзельнікаў арганізаваных тут мясаедаў, валоканняў і восеньскіх вечаркоў. У час апошніх зімовых канікулаў вялі кулінарныя заняткі з мясцовымі дзяцьмі.

**— Як успамінаеце працу з дзяцьмі?**

— Вельмі добра гулялі яны пры выпечцы бліноў і салодкіх баранкаў. Усё рабілі самастойна — мяшалі, качалі дрожджавае цеста, ляпілі, а я ім толькі паказваў і пільнаваў, — кажа Марыян Бараноўскі.

— Трэба нешта зрабіць іншым. Тут, у Крынках, культурнае і грамадскае жыццё надта сціплае. Усё ў руках звычайных людзей, якія хочуць нешта арганізаваць. А мясцовыя дзеткі горнуцца да любых прапаноў. У хаце не заўсёды іх пускаюць на кухню, — сцвярджае Гражына Бараноўская. — Мамы спяшаюцца, баяцца, што кухня забрудзіцца, а на нашых занятках могуць рабіць усё. Дрожджавае цеста, выробленае маленькімі ручкамі, атрымалася надта пульхным. Не ведаю якім спосабам гэтыя баранкі ў халоднай зале сінагогі так удаліся. А яшчэ дзякуючы нашым дабрачынным акцыям у нас паявілася шмат знаёмых, нават на вуліцы зачэпліваюць, каб спытаць пра нейкі рэцэпт.



Здымкі з архіва ГОК у Крынках

**— Цяпер плануеце праводзіць рэгулярныя заняткі?**

— Дзеткам спадабалася, зацікаўленне заняткамі вялікае, таму мы з дырэктар дома культуры Альжбетай Чарэмхай дагаварыліся на штомесячныя кулінарныя майстар-класы. Пачнем з нейкай простай, поснай стравы, потым зварым нешта на Вялікдзень, можа мазурка спячэм, але, здаецца, мазурак — не нашая традыцыя, — спаглядае няўпэўнена на свайго мужа Гражына.

— Наша, — адказвае Марыян. — Мазурак гэта пясочна-дрожджавы пірог, нестандартны, таму што надта тлусты. У ім павінны апынуцца два-тры сарты тлушчу.

**— Марыян, скуль гэта ведаеш?**

— Шматгадовая традыцыя. Навучыўся ад мамы.

— Свякроў мне сказала, — умешваецца Гражына, — што ён быў наймалодшы ў хаце, а да таго хваравіты і заўсёды заплятаўся ў мамін фартух. Свякроў любіла варыць і была таленавітай гаспадыняй. Любіла прымаць гасцей, якіх заўсёды ў яе было шмат. Частавала ўсім, што было, нават незнаёмых. Я таксама вучылася варыць пры маме, а цяпер развіваюся пры мужу. Часта займаемся супольна, разам плануем, раімся. Маем уласную вяндлярню, мяса прыпраўляем спецыямі выключна з ўласнага агарода.

— Любоў да гаршкоў — заслуга не толькі маёй маці, — удакладняе Марыян. — Мой бацька быў пекарам.

**— А чаму Ты ім не стаў?**

— Бацька перасцерагаў мяне, што гэта надта цяжкая праца і я не падыходжу да такой прафесіі, хаця калісь была думка аб адкрыцці сямейнай пякарні. Бацька, Антон, нарадзіўся ў 1921 годзе ў Толчах пад Кузніцай. Хутка застаўся сіратой. Маці памерла зараз пасля родаў, а бацька — паўгода пазней. На выхаванне ўзялі яго дзядзькі, якія жылі і працавалі ў Гародні. Адзін па прозвішчы Шаркоўскі меў сваю пякарню, а другі — Хмара, меў каўбасную. Там мой бацька закончыў пачатковую школу і здабыў майстэрскія сертыфікаты ў дзядзькавай пякарні. У Саколку з'ехаў пасля вайны. На пенсію адышоў, перапрацаваўшы 46 гадоў.

**— Твой смак дзяцінства...**

— Я ведаю, што яму смакавала, — імкнецца адказаць Гражына, — фаршыраваная гусіная шыйка.

— Самае цікавае, — працягвае тэму Марыян, — што гэты фарш робіцца з пшанічнай мукі, цыбулі, прыпраў і гусінага тлушчу. Так варылі мая бабуля і прабабуля. Астатняя нарадзілася на Віленшчыне і там працавала кухаркай у двары. Сямейныя кулінарныя традыцыі жывуць сёння ў нашай хаце, хаця ўводжу розныя навінкі.

— Любім эксперыментаваць, — гаворыць Гражына. — Выглядае гэта так, што ў мяне нараджаецца нейкая ідэя, а Марыян яе ажыццяўляе.Так паўстаюць новыя стравы, у якіх нават назваў няма, але асноўнае, што яны смакуюць нам і нашым знаёмым.

**— Вашыя тлустыя чацвяргі...**

— У маёй хаце заўсёды былі пончыкі, хрусты і карнавальныя ружы, — успамінае Гражына.

— А ў мяне, — дадае Марыян, — хрусты, хаця пончыкі мама таксама пякла ў вялікай колькасці. Каб не прыгаралі, у тлушч кідала сырую, пачышчаную бульбу.

Цяпер у тлусты ці худы чацвер спадарству Бараноўскім найлепш атрымліваюцца славутыя ўжо на цэлыя Крынкі баранкі. Іх рэцэпт Марыян гаворыць з памяці:

— Трэба ўзяць 1 кг мукі, экстракт, найлепш ромавы, 3 яйкі, дробку солі, палову шклянкі цукру, 100 грам маргарыну, шклянку малака і 100 грам дражджэй. Спачатку заняцца рэдкімі прадуктамі. Яйкі вымешаць з цукрам, соллю і экстрактам. У міжчасе шклянкай цёплага малака заліць дрожджы і пачакаць аж спрацуюць. Маргарын распусціць і ўсё гэта спалучыць. Усыпаць муку і замешваць. У залежнасці ад структуры цеста, калі трэба, дабавіць малака або мукі. На канец уліць туды алей і зноў як найдаўжэй мяшаць, таму што дрожджавае цеста любіць, калі з ім доўга працаваць.Потым адстаўляем яго, каб вырасла, яшчэ раз мяшаем і качаем. З гэтага трэба выразаць квадраты і загортваць іх дыяганальна, напаўняючы сярэдзіну варэннем або кускамі яблыкаў у цукры і карыцы. Па верху памазаць яйкам і паставіць у печку на 180 градусаў на 40 хвілін.

Канешне, па сямейнай традыцыі, і ніжэйпадпісаная не засталася з пустым страўнікам. Адмовіцца ад марыянаванага спадаром Марыянам селядца было немагчыма.

Іаанна ЧАБАН

ПРА НАС ДЗЕЙНАСЦЬ КАНТАКТЫ ПАРТНЁРЫ ПОШУК
Універсітэт Залатога Веку

# http://uzv.by

Кожнага з нас чакае старасць. Яе не дарма параўноўваюць з восенню. Гэта такая пара года, калі ўсё цікавае ў прыродзе, здаецца, ужо адбылося, і наперадзе толькі павольнае заміранне, а потым і канчатковы выхад. Падаецца, што людзям, якія дасягнулі „восеньскай" пары жыцця, застаецца толькі аддавацца ўспамінам і перадаваць набытыя цягам жыцця веды і досвед маладзейшым родным людзям. Але ўсё можа быць па-іншаму, калі чалавек не будзе ставіць на сабе і сваіх зацікаўленнях крыж і працягне актыўную дзейнасць. Тады яго старасць-восень, нягледзячы нават на хваробы,ператворыцца з паступовага замірання ды чакання вечнага пакою ў найвышэйшую ноту жыцця, і будзе, пэўна, здавацца, што ўсе пражытыя гады былі ў многім толькі прадчуваннем цяперашніх.

Магчыма, дапамагчы старому чалавеку знайсці тых, хто працягвае ўласную актыўнасць, здолеюць разнастайныя гурткі па інтарэсах, якія створаны для іх аб'яднання і сумеснай самарэалізацыі. З большага такія гурткі носяць адукацыйную накіраванасць, але ёсць і такія, што дазваляюць асобе раскрыць свае набытыя за папярэдняе жыццё здольнасці, удасканаліць іх. Часам такія гурткі самі аб'ядноўваюцца ў так званыя ўніверсітэты. Напрыклад, у Гродне існуе для сталых людзей Універсітэт залатога веку, пра сайт якога варта распавесці больш падрабязна.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас **http://uzv.by**, то перад яго вачыма адкрыецца інтэрнэт-бачына, якая мае спакойны бела-зялёны выгляд і аздоблена мноствам фотаздымкаў. Адразу бачна, што яе ўладальнікі дбаюць пра сваю справу і не пакідаюць „на потым" абнаўленне інфармацыі.

„Універсітэт залатога веку — гэта праграма, адрасаваная актыўным сталым гарадзенкам і гарадзенцам. Удзел у ёй могуць браць актыўныя сталыя людзі ў пенсійным ці перадпенсійным узросце. Універсітэт залатога веку — гэта цікавыя сустрэчы з цікавымі людзьмі, магчымасць навучыцца таму, на што раней не хапала часу, развівацца інтэлектуальна, фізічна і духоўна, быць карыснымі іншым людзям!" — так вызначаюць сваё крэда стваральнікі ўніверсітэта, пра што пішуць на старонцы „Пра нас", вышэй на якую месціцца ўверсе цэлага выяўлення.

Згодна пададзенай інфармацыі, універсітэт пачаў сваю дзейнасць вясной 2010 года, і напачатку ў ім было 40 чалавек. Яны, у прыватнасці, займаліся ёгай, камп'ютарнымі курсамі, ладзілі вячоркі, вялі дзённік, падарожнічалі.

Што ж тычыцца будовы сайта, то яна даволі простая. Уверсе размешчаны, відаць, асноўныя яго рубрыкі, дзе месціцца інфармацыя пра дзейнасць універсітэта, яго кантакты і партнёраў, а таксама разнамоўныя версіі старонкі „Пра нас" — англійская, нямецкая, польская і руская.

Большая колькасць рубрык знаходзіцца справа цэлага выяўлення. Найбольш цікавым для першага знаёмства будзе расклад заняткаў, які месціцца на старонцы „Праграма". Ён вельмі насычаны вывучэннем разнастайных дысцыплін. Актыўныя сталыя людзі ў Гродне вывучаюць англійскую, нямецкую, польскую, беларускую мовы, набываюць досвед працы з камп'ютарам, іграюць у шашкі, авалодваюць фота- і акцёрскім майстэрствам, ведамі па псіхалогіі і многа чым іншым.

Паколькі цяжка знайсці хоць які-небудзь недахоп у данага сайта, то не дзіўна, што ў снежні 2012 года ён быў прызнаны лепшым беларускім сайтам у сферы нефармальнай адукацыі на Фестывалі нефармальнай адукацыі ў Мінску.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Год без Паэта

# 80 гадоў з дня нараджэння Рыгора Барадуліна



24 лютага паэту Рыгору Барадуліну магло споўніцца 80 гадоў. Да юбілею ён не дажыў год. Нарадзіўся ж Барадулін у 1935 г. на хутары Верасоўка (афіцыйная назва на той час Гарадок ІІ Востраў Сарочынскага сельсавета) ва Ушацкім раёне (цяпер вёска Гарадок) у сям'і Івана і Куліны Барадуліных. У 1937 г. хутар быў ліквідаваны і сям'ю паэта перасялілі ва Ушачы. Дзед паэта па мамінай лініі, Андрэй Гальвіньш, быў этнічным латышом. Бацька загінуў у 1944 г. у час Другой сусветнай вайны ў партызанскім атрадзе. Навучаўся ва Ушацкай сярэдняй школе, затым на філалагічным факультэце БДУ ў Менску. У школе Рыгор Барадулін не стаў піянерам: у час запісу ў арганізацыю ён збег са школы. Праўда, у юнацтве ў камсамол уступіў. А ў час працы неаднаразова адхіляў прапановы далучэння да шэрагаў КПСС.

Працаваў рэдактарам у розных перыядычных выданнях (газета „Советская Белоруссия", часопісы „Бярозка", „Полымя"), а таксама ў выдавецтвах „Беларусь" і „Мастацкая літаратура". У апошнім працаваў больш за 20 гадоў.

У канцы 1980-х гадоў, у час перабудовы і развіцця звязаных з ёю нацыянальна-адраджэнскіх рухаў у рэспубліках СССР, Барадулін быў актыўным удзельнікам грамадскага руху Беларускі народны фронт «Адраджэнне», потым далучыўся да Партыі БНФ, якая ўтварылася на падмурку гэтага руху. На першых прэзідэнцкіх выбарах у гісторыі Беларусі (1994) разам з Васілём Быкавым актыўна падтрымліваў Зянона Пазьняка. З другой паловы 1990-х гг. актыўна ўдзелу ў палітыцы не браў.

У дзяцінстве Рыгор Барадулін быў ахрышчаны рымска-каталіцкім святаром, пазней прыналежаў да ўніяцкай супольнасці. Актыўна працаваў у жанры духоўнай лірыкі. Да 25-годдзя пантыфікату папы Яна Паўла ІІ Барадулін пераклаў на беларускую мову кнігу паэзіі папы „Рымскі трыпціх" і меў магчымасць пабачыцца з пантыфікам на асабістай аўдыенцыі ў Ватыкане 28 чэрвеня 2004 г.

Пачаў друкавацца з 1953 г. Першыя вершы былі змешчаныя ў газеце „Чырвоная змена". Першы зборнік паэзіі — „Маладзік над стэпам" (1959). Агулам плён працы Барадуліна складае каля ста выдадзеных зборнікаў паэзіі (сярод якіх шмат зборнікаў сатыры і гумару, а таксама вершаў для дзяцей), крытычных артыкулаў, эсэ, перакладаў). Двойчы выходзілі зборы выбраных твораў паэта. У 2005 г. выйшаў зборнік малітоўнай паэзіі „Ксты". Зборнік „Руны Перуновы" (2006), у які ўвайшла выбраная лірыка, таксама насычаны духоўнымі вершамі. Перакладаў класікаў розных народаў.

У 1964 г. Уладзімір Караткевіч прысвяціў яму аповесць „Ладдзя роспачы" і падарыў яе рукапіс. Барадулін — апошні, каму надалі званне Народнага паэта (1992). У 1997 г. атрымаў медаль Францыска Скарыны. Быў ганаровым доктарам БДУ і ганаровым грамадзянінам Ушацкага раёна. У 2006 г. кандыдатура Барадуліна была сярод намінантаў на Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры (за зборнік вершаў „Ксты").

Памёр паэт 2 сакавіка 2014 г. Развітальная паніхіда прайшла ў Менску ў Касцёле свсв. Сымона і Алены. Пахаваны побач з маці на Ушацкіх могілках у Віцебскай вобласці..

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Галіна БІРЫЦКАЯ

## Выбары

*Калі хочаш радным або солтысам быць,*
*Трэба два тыдні перад выбарамі*
*І хоць яшчэ тыдзень па выбарах*
*Гарэлкай сваіх жыхароў папаіць.*
*У той дзень едуць ахвотна машынамі,*
*Хто роварам, а хто яшчэ не вельмі цвярозы,*
*То на адпаведную гадзіну пяшком забяжыць.*
*Падкрэсліўшы выбарчыя карткі,*
*Паглядаюць адзін на аднаго.*
*Устрымалі дыханне, зрабілася цішыня.*
*Нарэшце жаданы поспех!*
*Пачалі рукі заціраць радасна!*
*Сэрцы пачалі мацней біць*
*Удалося! Добра загулялі.*
*Некаторым прыйшлося недзе з боку дарогі*
*Або ў рове паляжаць.*
*Да наступных выбараў праз чатыры гады*
*Будзе што ўспамінаць...*
*Ці вышэйшыя ўлады не могуць так зрабіць,*
*Каб праз два гады, а добра было б і каб праз год*
*Выбары паўтарыць?*



## Па гарачых слядах

Ваяводская дарога № 687 пралягае цераз вёску Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет). На гэтым адрэзку асфальт на маставой найбольш разрушчаны і тут утварыліся вялікія ўхабіны. Ездзіць стала небяспечна. Пра гэта даволі часта гаварыў падчас сесій Гміннай рады ў Нараўцы солтыс Новага Ляўкова.

Войт Нараўчанскай гміны накіроўваў прашэнні новаляўкоўскага солтыса ў Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог (ППВД) у Беластоку. Адтуль адказвалі, што будуць рамантаваць:.

„Podlaski Zarząd Dróg Wojewódzkich w Białymstoku w odpowiedzi (...) uprzejmie informuje, że nawierzchnia drogi wojewódzkiej nr 687 Juszkowy Gród — Bondary — Nowosady na odcinku od przejazdu kolejowego w Plancie do drogi do cmentarza w Lewkowie Nowym zostanie naprawiona w okresie wiosenno-letnim w ramach realizacji umowy na remonty cząstkowe".

Адказ прыйшоў 29 красавіка 2014 г. Солтыс ездзіў да дырэктара ППВД у гэтай справе ў пачатку сакавіка. Там абяцалі, што да велікодных свят дарога цераз Новае Ляўкова будзе роўная як стол. Ну, пацешыць то яны ўмеюць! З такой добрай навінай солтыс ляцеў у родную вёску быццам на крылах. Вось парадуе суседзяў.

Летам мінулага года дарожныя службы ўсё ж узяліся за рамонт маставой, але, як на кароткі час з'явіліся, так і неўзабаве недзе з'ехалі ды ўжо больш не паказаліся. Пакінулі і забылі. Солтыс далей патрабуе закнчэння рамонту дарогі. Войт зноў піша пісьмо ППВД:

„Uprzejmie informuję, że (...) 25 września 2014 roku sołtys sołectwa Lewkowo Nowe Pan Jan Ciełuszecki wnioskował o naprawę odcinka drogi wojewódzkiej nr 687 w miejscowości Lewkowo Nowe (200 m pomiędzy odcinkami już naprawionymi. Zły stan nawierzchni drogi w tym miejscu stwarza zagrożenie bezpieczeństwa ruchu drogowego".

Прыйшла зіма. Грузавікі яшчэ больш руйнуюць маставую. Ухабіны на ёй сталі больш глыбокімі, чымсьці былі пару месяцаў таму. Дырэктар ППВД у Беластоку не адказаў на пісьмовае прашэнне гмінных улад і солтыса. Зараз такая лёгкая зіма, што дарогі можна рамантаваць. Аднак іх не рамантуюць. Дырэктар правалійся ў зімовы сон?

**(яц)**

## Несумленныя плацельшчыкі

У Чаромхаўскай гміне ў мінулым годзе дзве фірмы не справіліся са сваімі абавязкамі падаткаплацельшчыкаў за нерухомасць, затым не паступіла ад іх у гмінную касу 127 829 зл.

Задоўжанасць прадпрыемства „BAST" складала на канец 2014 года суму 103 673 зл. у тым ліку 54 616 зл. падатку ад маёмасці і 49 057 зл. іпатэчных абавязацельстваў. Паколькі справа ад даўжэйшага часу адтэрміноўваецца, гміна перадала справу судовому выканаўцу. Прадпрыемства агульнага будаўніцтва „BOMAR" не заплаціла гміне разам з працэнтамі за мінулы год 24 156 зл. Зараз задоўжанасць павялічваецца на чарговыя адсоткі. Апрача згаданых прадпрыемстваў з выкананнем плацежных абавязацельстваў спазняюцца сяляне. Гэтыя за мінулы год не заплацілі ў агульным ліку 18 682 зл. Пагашэнне войтам даўгу за вываз нечыстотаў чарговa зменшыла гмінны бюджэт на суму 7 954 зл. У агульным ліку працэнтны паказчык выканання грашовых абавязацельстваў гміны склаў за 2014 год 86,6%.

**(ус)**



## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. фізічная з'ява, якая ўспрымаецца слыхам = 5 _ 28 _ 27 _;
2. сталіца Украіны = 23 _ 24 _ 26 _ 13 _;
3. партнёр прадаўца = 18 _ 19 _ 29 _ 16 _ 33 _;
4. здольнасць да ўспрымання і адрознівання пахаў = 25 _ 32 _ 20 _;
5. клоўн, блазен = 3 _ 4 _ 31 _ 15 _;
6. частка адзення, якая пакрывае руку = 6 _ 7 _ 8 _ 9 _ 10 _;
7. становішча або форма тулава = 14 _ 22 _ 21 _ 17 _;
8. форменнае паліто = 11 _ 12 _ 1 _ 2 _ 30 _ 34 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | | | | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 6 нумара**

Калгуеў, мястэчка, штурман, аорта, пойла, бюро, брук.

Рашэнне: **Каму што, а пеўню бойка**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 01.03 — 07.03

**(22.03. — 20.04.)** Клапаціся аб партнёра, асабліва 2-6.03. У першыя два тыдні сакавіка не шкадуй часу для знаёмых. Можаш пазнаёміцца з кімсьці арыгінальным і асаблівым. Дацэніш сардэчную атмасферу дома, спакой. У сакавіку будзеш больш турбавацца здароўем (галава, жывот). 3-7.03. на працы сачы за супрацоўнікамі, разлічвай на сябе; не раскідайся грашыма.

**(21.04. — 21.05.)** Спрыт, разумныя задумы, будзеш задаволены і справішся ў кожных акалічнасцях. Але пільнуйся ў пачуццях. 2-6.03. стоміць цябе і знервуе нейкая асоба на працы; трымай язык за зубамі. Сілы шмат, але крыху нязладжана з настроем. Пагражаюць запаленні, галаўныя болі, шкода ад кавы і нікаціну. Затое не мусіш турбавацца грашыма, лёгка можаш дастаць тое, што хочаш.

**(22.05. — 22.06.)** 1-4.03. крэатыўнасць і ўражлівасць. Пачні развіваць свае таленты. Гавары адкрыта аб тым, што табе баліць. Дзякуючы гэтаму ўсё зладзіцца па тваёй думцы. Найбліжэйшыя стануць пры табе сцяною. Добры настрой у першай палове месяца. Многа задач і службовых спраў, добры час паказацца; што цяпер зробіш — дасць працэнты ў будучыні.

**(23.06. — 23.07.)** 2-6.03. фантастычныя рандэву і эфектыўныя сустрэчы. У шукаючага кахання Рака трапіць страла Амура! Хтосьці цябе рассмешыць, зацікавіць, пры ім забудзешся аб штодзённых турботах. Але прыглядайся яму крыху. У сямейнага Рака на галаву можа зваліцца клопат аб асобе, якой ніхто не хоча займацца; падмогі не адмовяць калегі і сваякі. Добры настрой, але пільнуйся што ясі. На працы рэалізуй свае амбіцыі.

**(24.07. — 23.08.)** Час 1-3.03. можа прынесці табе нялёгкі досвед, можаш адчуць, што хтосьці хоча цябе адставіць на абочыну, асабліва ў прафесіі. 3-7.03. можаш увайсці ў канфлікт з кімсьці, хто цябе не хоча слухаць. 4-8.03. мноства жвавасці і адчайнасці, ідэальны момант для фарсіравання сваіх планаў і непахіснае рэалізаванне намераў; можаш шмат што аформіць, пазітыўна прайсці размову ў справе новай працы. Не ўсё пойдзе ў пачуццях лёгка, трэба будзе пастарацца. 4-8.03. правядзі ачышчальную тэрапію зёлкамі.

**(24.08. — 23.09.)** 1-4.03. справішся з нялёгкімі сітуацыямі, у якіх звычайна не хапае табе адвагі. Зазззяеш новымі задумамі. З дапамогай іншых пачнеш праектаваць нанова сваё жыццё. Бурлівa ў пачуццях. Варушыся, не будзеш хварэць.

**(24.09. — 23.10.)** 2-6.03. вельмі ўдалыя любоўныя сустрэчы; усё, што добрае, цябе не абміне! У пачуццях гармонія і спакой. Сінгл не дасць абльтаць сябе, вельмі ж любіць свабоду. Дома не старайся ўсіх мірыць, бо ўсё абернецца супраць цябе. Шалёны тэмп жыцця можа адбіцца на здароўі; услухоўвайся ў сваё цела. Няма вялікіх надзей на большы заробак, але не турбуйся.

**(24.10. — 22.11.)** 4-8.03. будзеш самаўпэўненым, аўтарытэтам для іншых, сваёй кемлівасцю задзівіш іншых і самога сябе! Хаця цяжка будзе табе карыстацца прыемнасцямі жыцця (3-7.03.), бо могуць вярнуцца старыя, нявырашаныя справы ў пачуццях; пазбудзься гэтага ўсяго назаўсёды! Сярод радні і сяброў чакаюць цябе вялікія змены, час сказаць што ляжыць табе на сэрцы. 5.03. схадзі да лекара, зважай на алергіі і кровазварот.

**(23.11. — 22.12.)** 1-5.03. рабі смелыя прыёмы ў прафесіі; шчасце ў інтарэсах і нагоды вельмі карысных кантрактаў. У пачуццях рызыкні. У сям'і не будзь лішне крытычным. На працы абучайся, энергічна руш у пошуках працы. Хтосьці схоча табе зрабіць мядзведжую прыслугу; не слухай яго парад.

**(23.12. — 20.01.)** 2-6.03. найбольш шалёныя рандэву; адчуеш свабоду, будзеш вабны і гожы. Сакавік можа шмат змяніць у тваім жыцці; не бойся сур'ёзных дэкларацый. Дома шчырая размова ўсё наладзіць. На працы рабі ўсё хутка. Не еж салодкага і смажанага.

**(21.01. — 19.02.)** Творчыя дзеянні, можаш пачаць рэалізацыю фантастычнага праекта. У пары радасныя жарсці. Еж здаравей, са спецыямі, пі гарбатку з імбірам.

**(20.02. — 21.03.)** Не танцуй як зайграюць табе іншыя. Памятай аб сваіх патрэбах! У пачуццях пачні новы раздзел. 1-3.03. твае старанні пойдуць упустую, калі паддасіся эмоцыям. Будзеш нервовы і разявавы, пільнуйся, каб не нарабіць вялікіх страт. 5.03. вельмі пільнуйся, асабліва дбай аб сваё вочы, могуць дакучаць табе болі ў грудзях. Пі мінеральную ваду, глытай магній.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# Дзень роднай мовы ў праваслаўнай школе

— Чаму пішам беларускую дыктоўку? У такі спосаб мы можам паказаць нашу пашану для беларускай мовы і падтрымаць яе, — пачаў Зміцер Косцін.

Вядомы журналіст Радыё Рацыя перш чым пачаў весці дыктоўку, распавёў пра яе гісторыю. Ідэя нацыянальнай дыктоўкі нарадзілася ў Фінляндыі. Фіны не пагаджаліся, што іх родная фінская мова знікае ў карысць шведскай. Дзякуючы свядомай працы прыхільнікаў роднай мовы, яны змаглі захаваць фінскую мову, а нацыянальная дыктоўка выдатна прыслужылася яе адраджэнню.

— Беларуская мова, — як адзначыў журналіст, — апынулася на спіску знікаючых моў свету. Таму кожны з нас, каму ляжыць на сэрцы родная мова, павінен яе не толькі любіць, але і граматна вывучаць, — затым у такт сказанага вядоўца прачытаў «Роднае слова» Аляксандра Крывіцкага.

Менавіта, «Беларуская дыктоўка» была першым пунктам «Дня роднай мовы», які з адчуваннем і вялікай ангажаванасцю вучняў наладзілі ў Непублічнай школе свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку 19 лютага г.г.

— Гэта самая прыемная школьная дыктоўка на працягу года, — паўтаралі вучні.

Як тры гады таму, да конкурсу прыступіла больш за палову вучняў пачатковай школы і гімназіі, агулам больш чым пяцьдзясят асоб. Для наймалодшых — мова пра трэцякласнікаў — настаўніцы прыдумалі адмысловае сачыненне пад загалоўкам «Памочніцы». У гэтай групе было ажно восем дзетак. Першае месца ўзяла Алеся Буткевіч і, як год раней, яна напісала дыктоўку без адной памылкі.

Прыгадайма, ідэю нацыянальнай дыктоўкі ў праваслаўнай школе ажыццявіла таленавітая настаўніца Іаанна Марко. Першую дыктоўку пісалі ў памятны для беларусаў дзень, якраз у дзень пахавання пісьменніка Сакрата Яновіча, 19 лютага 2013 г. Сярод прапаноў дыктоўкі была тады, між іншым, «мініяцюра-сакратка» пад загалоўкам «Малітва да беларускага слова».

У гэты раз дыктоўку падрыхтавалі дзве настаўніцы — Юліта Сушч і Віялета Нікіцюк-Пэркоўская. Вынікі былі агучаны яшчэ ў той самы дзень у час мастацкай праграмы. У цэлым было ажно пяць пераможцаў: Алеся Буткевіч (III клас), Магда Гарустовіч (V клас), Вераніка Кардзюкевіч ды Клаўдзія Галінская (VI клас) і гімназістка Дамініка Благушэўская. Усе яны атрымалі беларускія граматы, а дзве асобы, дадаткова, выйгралі гадавую падпіску «Нівы».


Дыктоўку павёў Зміцер Косцін

**Чаму пішам беларускую дыктоўку? У такі спосаб мы можам паказаць нашу пашану для беларускай мовы і падтрымаць яе...**

* * *

Мастацкая частка, прыдуманая на аснове ідэй вучняў, была вясёлай і адначасова адукацыйнай. Старэйшыя дзяўчаткі падрыхтавалі сцэнку пра ўрок беларускай мовы. У іншай гульні трэба было прыдумаць казку (на беларускай мове). На сцэну выйшла пяць пар добраахвотнікаў. І тут па-за ўсякай канкурэнцыяй апынуліся наймалодшыя: Куба Навумюк і Мілаш Тэляшэўскі. Хлопцы падбілі сэрцы публікі жывой беларушчынай і гумарам.

— Аднак найбольш «круціла» іх прэзентацыя вершаў і апавяданняў на конкурс «Дэбют», — дадае спадарыня Віялета.

Яшчэ да выступлення яна адзначыла, што да беларускага літаратурнага конкурсу прыступіла дванццаць вучняў іхняй школы. Жывая прэзентацыя захапіла публіку. Свае вершы чыталі, між іншым, Габрыся Торка, Алік Семянюк, Мішка Сахарчук, Віка і Зузя Кардзюкевічанкі, Оля Салавянюк...



Алік Семянюк, Мішка Сахарчук і Віка Кардзюкевіч



Падобныя эмоцыі выклікаў конкурс на беларускія стравы, якія падрыхтавалі вучні. Тут былі масленічныя хрусты, салодкія рулеты ды дранікі са смятанкай і трускалкамі. Стравы каштавалі дырэктар школы Лена Лаўнічук, старшыня Рады бацькоў Аляксей Кардзюкевіч і намесніца дырэктара Культурнага цэнтра Беларусі Юлія Рубіна. Спадарыня Юлія прыехала з адмысловымі падарункам, якія атрымалі ўсе ўдзельнікі кулінарнага конкурсу.

Дзень роднай мовы завяршыўся школьнай дыскатэкай.

* * *

Згодна з традыцыяй «Беларускую дыктоўку» падтрымалі Радыё Рацыя, Радыё Беласток і традыцыйна «Ніва». Можна сказаць, што ўсё мерапрыемства было таксама святам нашай газеты. У час агульнай урачыстасці словы шчырай падзякі ў бок тыднёвіка беларусаў у Польшчы выказала дырэктар Лена Лаўнічук:

— Мы дацэньваем факт, што нашы вучні могуць друкаваць свае творы ў «Ніве» і што могуць удасканальваць свае здольнасці. Гэта для нас не толькі падтрымка, але гонар!

Аляксей Кардзюкевіч, старшыня Рады бацькоў у сваю чаргу ўспомніў пра адну цудоўную выпадковасць. Нядаўна ён сустрэўся з лодзінскім архіепіскапам Сіманам ды згаварыліся пра «Ніву». Спадар Кардзюкевіч намякнуў, што яго дачка піша ў «Зорку». На гэтыя словы архіепіскап узрушыўся і назваў імя дачушкі. Аказваецца, саноўнік прыкмеціў ужо творы Веранікі Кардзюкевіч у нашай газеце.

Апошнія словы прыводзім не з-за недахопу сціпласці, а толькі таму, каб адзначыць, што Дзень роднай мовы ў беластоцкай праваслаўнай школе, і асабліва нацыянальная дыктоўка, якую вучні лічаць сваёй традыцыяй, былі таксама вялікім святам нашай газеты.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**


Злева: Куба Навумюк і Мілаш Тэлешэўскі

ISSN 0546-1960